# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

29 снежня 2017 года №52 (1183)





# З НОВЫМ ГОДАМ!

## НАЙЧАСЦЕЙШЫЯ НАВАГОДНІЯ АБЯЦАННІ



32% – лепей харчавацца



38% – заняцца спортам



33% – схуднець



15% – больш эканоміць



15% – знайсці час на хобі



9% – кінуць курыць



15% – знайсці час для сям'і

12% – больш чытаць





12% – менш піць

# Планы на 2018: схуднець і больш чытаць

Новы год – традыцыйны час для абяцанняў самому сабе. Новы год мы асацыюем з новым жыццём, дзе абавязкова будзем лепшыя і прыгажэйшыя. Прызнайцеся, вы таксама плануеце пачаць бегаць зранку ці адмовіцца ад салодкага пасля 18 вечара? Брытанская агенцыя па даследаванні рынку ComRes задавала еўрапейцам пытанне: што вы абяцаеце самому сабе перад навагоднімі святамі? Вынікі апытання вы можаце пабачыць у інфаграфіцы. А ці падобныя вы да сярэднестатыстычнага еўрапейца?

Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.



## Дзяўчына ў вазку: вучыцеся быць шчаслівымі сёння, інакш можаце спазніцца

старонка 2

## Разьбяр з Мядзельшчыны пра вандроўку ў Томск: Каб ехаць на конкурс, адгадаваў бараду і набыў валёнкі

старонка 18


Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Дзяўчына ў вазку: Вучыцеся быць шчаслівымі сёння, інакш можаце спазніцца

МАЛАДЗЕЧНА

**Раіць усім сваім сябрам і падпісчыкам у сацыяльных сетках 18-гадовая маладзечанка Аксана Карніловіч.**

У 18-гадовай маладзечанкі ўвогуле ёсць чаму павучыцца. І фразы, якія яна піша ў сваёй сацыяльнай сетцы, не пусты гук. Яна так адчувае.

Акрамя таго, Аксана займаецца фехтаваннем, любіць гуляць з лепшай сяброўкай Дзінай, а яшчэ вядзе ў інтэрнэце свой блог. Звычайная дзяўчына з доўгай касой. Толькі ў інвалідным вазку.

Мы пазнаёміліся з Аксанай якраз праз яе відэа ў "Ютубе". Яна расказвае пра свае мары і планы на 2018 год, паказвае працы, якія зрабіла сваімі рукамі.

Адзінае, што засмучае, гэта тое, што ў яе толькі 36 падпісчыкаў. Ды і ідэй, пра што здымаць відэа, у дзяўчыны, якая большасць часу праводзіць дома, амаль не засталося.

Вось і рашылася расказаць пра сябе і папрасіць хлопчыкаў і дзяўчынак, а таксама дарослых людзей падказаць, пра што весці гаворку на сваім ютуб-канале.

Знайсці Аксану на прасторах інтэрнэту можна па запыце: Ksucha MOR у "Ютубе" і "Укантакце".

Сёлета Аксана заканчвае маладзечанскую СШ №8, пасля яе марыць стаць праграмістам.

І ўжо амаль год займаецца фехтаваннем.

– Мяне трэнер знайшла сама ў сакавіку. А мне сумна дома сядзець, вось я і падумала, што можна паспрабаваць. А летам на спаборніцтвах заняла трэцяе месца.

Трэніроўкам Аксана аддае два дні на тыдзень, а ў астатні час, прызнаецца дзяўчына, расклад дня ў яе звычайны: прачынаецца і рыхтуецца да прыходу настаўнікаў, бо займаецца дома.

А яшчэ Аксана займаецца рукадзеллем.

Яна ўмее і вязаць, і плесці бісер, і працаваць са скурай.

– Я вяжу навалочкі на падушкі, не так даўно скончыла вязаць плед. Карацей, займаюся крыху ўсім. Цяпер раблю дрэўцы з бісера, упрыгожанні. Разам з мамай робім букеты з цукерак.

А вось пра тое, што ў сям'і расце не толькі майстрыха, але і відэаблогер, мама Аксаны пакуль не ведае.

– Я, шчыра кажучы, нават не ведаю, як ёй пра гэта сказаць.

А сёння ў Ксюшы новыя клопаты: трэба паставіць навагоднюю ялінку і зберагчы яе ад коткі Джэсікі, бо тая таксама аматарка навагодніх святаў.

А вось нейкага асаблівага падарунка Аксана не чакае:

– Я ж дарослая дзяўчынка, і ў Дзеда Мароза не веру, а вось у цуды веру. Ці здараліся цуды са мной? А хіба не цуд тое, што мяне знайшоў мой трэнер па фехтаванні і я больш не сяджу цэлымі днямі дома?

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**











**На фотаздымках, што даслала Аксана Карніловіч у рэдакцыю, бачна, што інвалідны вазок не перашкаджае дзяўчыне весці актыўны лад жыцця, займацца спортам, гуляць з сабакам на свежым паветры, удзельнічаць у навагодніх ранішніках. Аксана, як і ўсе дзяўчынкі, любіць кветкі і не ўяўляе свята без вялізнай колькасці паветраных шарыкаў.**

## Артыкул 9 Канвенцыі аб правах інвалідаў, які ўступіў у сілу год таму, 29 снежня 2016 года.

Каб надзяліць інвалідаў магчымасцю весці незалежны лад жыцця і ўсебакова ўдзельнічаць ва ўсіх аспектах жыцця, дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць належныя меры для забеспячэння інвалідам доступу нароўні з іншымі да фізічнага асяроддзя, да транспарту, да інфармацыі і сувязі, уключаючы інфармацыйна-камунікацыйныя тэхналогіі і сістэмы, а таксама да іншых аб'ектаў і паслуг, адкрытых ці якія прапануюцца насельніцтву як у гарадскіх, так і ў сельскіх раёнах.



# Купить всем подарки к Новому году в одном месте? Миссия выполнима!

**Говоря по правде, без торгово-административного центра "Модуль" вряд ли бы нам это удалось.**

При этом, не нужно было носиться по всему торговому центру – достаточно было посетить их новый корпус.

Но обо всём по порядку.

Поход в магазин всей семьей сами знаете, к чему может привести. Ребенок плачет и просится в магазин игрушек, супруг – в магазин автозапчастей или просто посидеть в кафе, чтобы его никто не трогал.

А что делать мне? Если в руках список тех, кому необходимо купить подарки к Новому году! Друзья, коллеги, родственники мои и родственники мужа. Такие разные люди! Как им всем угодить и при этом не тратить на выбор подарков целую неделю?

Итак, мы едем за покупками. Улица Великий Гостинец,143-б, справа – огромная вывеска: торгово-административный центр "Модуль". Хм, а почему бы не повернуть? Тем более, что место парковки долго выбирать не пришлось – 450 машиномест хватит всем.

На первом этаже главное – удержать ребенка, так как здесь располагается один из самых больших магазинов игрушек в городе. Впрочем, очень хорошо. Ведь подарки нужно купить и детям подруг: и годовалой девочке, и 12-летнему мальчику. Куклы, конструкторы, мягкие игрушки, пазлы, машинки – выбрать есть из чего.



Фотозона в ТАЦ "Модуль" находится на 1 этаже. На фото Ольга Ковальчук.

Думаю, муж в состоянии справиться с выбором игрушек, а я загляну в магазин, который находится напротив. Маленький магазинчик хэндмэйд изделий – "Бери и дари". Это просто находка! Мыло и бомбочки для ванны ручной работы, кожаные обложки и кошельки, игрушки и статуэтки. Все такое милое, красивое, эксклюзивное.

Таким образом, строчки из списка с именами подруг вычеркнуты. Осталось купить подарки целому батальону родственников. Хорошо, что в новом корпусе ТАЦ "Модуль" около 200 магазинчиков! Косметика, белье, домашний текстиль, обувь, одежда, электроника, аксессуары для автомобиля, бытовая техника. И на все это скидки, скидки, скидки.

А еще наиболее привередливым родственникам можно отправлять фото того, что собираешься им купить прямо по вайберу, благо бесплатный вайфай есть на всей территории торгового центра.

Хочу отметить, что продавцы здесь просто на вес золота: и посоветуют, и помогут с выбором, и скидку предложат.

А если подарки куплены, можно выпить вкусного кофе и съесть большой бургер. И все в одном месте – торгово-административном центре "Модуль".

А вот еще приятный бонус: на первом этаже работает фотозона. Чтобы день приятных забот и покупок по сниженным ценам остался в памяти – можно сфотографироваться у камина с плюшевой собакой.

**Торгово-административный центр "Модуль" – здесь все сделано для людей.**

В ТАЦ "Модуль" была Евгения Морозова.
УНП 690320829




## ЛІЧБА НУМАРА

каля **4000** ёлак штогод высякаюць у Маладзечанскім лясгасе ў сезон навагодніх святаў

Паводле belta.by

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.12 | 28.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0133 | **1,9717** |
| Еўра | 2,3815 | **2,3414** |
| Злоты, 10 | 5,6755 | **5,5926** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4285 | **3,4289** |
| Грыўня, 100 | 7,2317 | **7,0493** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 20.12 | 27.12 |
| Еўра | 2.3740/2.3890 | **2.3400/2.3590** |
| Долар ЗША | 2.0110/2.0250 | **1.9700/1.9870** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 20.12 | 27.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16.95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2.98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,68** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 3,90 | **3,60** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 3,80 | **5,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,50 | **13,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,55 | **0,55** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,39** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,55 | **1,55** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 3,45 | **4,45** |
| Перац, 1 кг | 5,49 | **5,95** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,85 | **3,95** |
| Бананы, 1 кг | 1,80 | **2,40** |
| Вінаград, 1 кг | 3,85 | **3,95** |
| Гранаты, 1 кг | 3,40 | **3,80** |
| Грушы, 1 кг | 2,99 | **3,89** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Ківі, 1 кг | 3,70 | **4,20** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,95** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,49 | **3,79** |
| Хурма, 1 кг | 3,70 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,89 | **1,99** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,50** |

# На другім стартап уікэндзе ў Камарове перамаглі шэсць бізнес-ініцыятыў

МЯДЗЕЛ, АСТРАВЕЦ, СМАРГОНЬ

**У вёсцы Камарова на Мядзельшчыне 9 снежня прайшоў другі стартап уікэнд.**

Выпускнікі Школы сельскага бізнесу прэзентавалі падрыхтаваныя падчас навучання бізнес-планы і змагаліся за адзнакі журы.

Стартап уікэнд стаў завяршальным мерапрыемствам для слухачоў Школы сельскага бізнесу ў Камарове, якія праходзілі навучанне ад жніўня да лістапада 2017 года. Падчас заняткаў пачаткоўцы і дасведчаныя бізнесмены з чатырох раёнаў, Смаргонскага, Мядзельскага, Пастаўскага і Астравецкага, вучыліся асновам бізнес-планавання і атрымлівалі кансультацыі.

Членам журы трэба было ацаніць перспектывы прыватных ініцыятыў і вызначыць, каму дастанецца фінансавая падтрымка праекта Еўрапейскага саюза "Развіццё сельскіх тэрыторый у Рэспубліцы Беларусь: Павышэнне ролі сельскага прадпрымальніцтва ў РБ шляхам стварэння і запуску ў Камарове сельскага бізнес-інкубатара". У склад журы ўвайшлі прадстаўнікі мясцовай выканаўчай улады, бізнесу, беларускіх і замежных грамадскіх арганізацый.

Па выніках галасавання пяць з прадстаўленых дзевяці мясцовых прыватных ініцыятыў атрымаюць фінансавую падтрымку ад праекта Еўрапейскага саюза ў памеры ад 2 да 10 тысяч еўра. Таксама другі шанец пазмагацца за фінансаванне атрымалі тры бізнес-ініцыятывы, якія недабралі патрэбную колькасць балаў на першым стартап уікэндзе.

Найбольшую колькасць балаў набрала ініцыятыва **Ігара Хвашчэўскага** са Смаргонскага раёна. Яна накіраваная на вытворчасць біягумусу з утылізацыяй адходаў буйной рагатай жывёлы па арганічных стандартах рэгулявання ЕС.

Фінансавую падтрымку праекта ЕС таксама атрымае бізнес-ідэя па наладжванні ўласнай вытворчасці камбікорму на трусагадоўчай ферме. Яе аўтар – **Аляксандр Гатоўка** з Мядзельскага раёна.

Высока ацанілі члены журы і бізнес-ідэю па арганізацыі буйнога сямейнага пчалярскага прадпрыемства на базе існуючага пчальніка. Яе прадстаўляў **Аляксандр Марозік** з Астравецкага раёна.

Адным з пераможцаў таксама стаў **Іван Мацюк** з аграгарадка Залессе. Ён плануе пабудаваць і ўладкаваць трапезную на тэрыторыі ўласнай аграсядзібы "Паланэз". Улічваючы, што аграсядзіба знаходзіцца побач з музеем-сядзібай М. К. Агінскага, бізнесмен прагназуе вялікую папулярнасць для сваёй трапезнай, тым больш, што ён будзе прапаноўваць турыстам стравы мясцовай кухні па старадаўніх рэцэптах.

Таксама журы вырашыла падтрымаць будаўнічую кампанію "НАРС". Бізнесмен **Дзмітры Стралец** плануе наладзіць вытворчасць растворных і бетонных сумесяў з дастаўкай іх да спажыўца і магчымасцю загрузкі ў аўтабетоназмяшальнік.

Нягледзячы на тое, што па выніках галасавання журы падтрымалі пяць бізнес-ініцыятыў, яшчэ дзве былі ўключаныя ў ліст чакання. Калі будзе дазваляць бюджэт праекта, яны таксама будуць падтрыманыя.

На папярэднім стартап ўікэндзе некалькі ідэй былі адпраўленыя на дапрацоўку. Сярод іх развіццё аграсядзібы "Чара" ў Астравецкім раёне, дзе муж і жонка **Юры і Алена Трыбулёвы** плануюць адкрыць для турыстаў некалькі тураў па гукатэрапіі, і вытворчасць свечак **Сяргея Ракецкага** з Мядзельскага раёна. Журы вырашыла падтрымаць сям'ю Трыбулёвых. Бізнес-ідэю Сяргея Ракецкага ўключылі ў ліст чакання.

**Паводле міжнароднага грамадскага аб'яднання "Экапартнёрства".**

НАВІНЫ

## У віляйчанкі скралі ўпрыгажэнні

ВІЛЕЙКА

22 снежня ў міліцыю звярнулася віляйчанка. Яна паведаміла пра крадзеж.

Невядомы злачынца скраў у яе з дому бранзалет, пярсцёнак і тры залатыя ланцужкі. Шкода склала 1250 рублёў, распавялі ў Вілейскім РАСК. Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Крадзеж".

Аксана ЯРАШОНАК.

## Кіроўца бетонамяшалкі прадаў жыхару бетон

ВАЛОЖЫН

Тым самым растраціў маёмасць, якая яму не належыць.

Мінчанін, кіроўца бетонамяшалкі, працуе на рэканструкцыі дарогі Мінск-Гродна.

У адзін з дзён ён дамовіўся з жыхаром вёскі Пяршаі, што за 1000 рублёў падгоніць яму машыну бетону.

Аднак праваахоўныя органы выкрылі гэту аферу.

Жыхар Пяршаяў шкоду сплаціў, у сваім учынку раскаяўся.

А вось кіроўцу, расказаў старшы следчы Валожынскага РАСК **Аляксандр Барахоўскі**, пагражае да 4 гадоў пазбаўлення волі.

Наталля ТУР.

## Бяспечны Дзед Мароз з'явіўся ў Астраўцы

Ад 20 верасня на вуліцах Астраўца з'явіўся бяспечны Дзед Мароз. Замест традыцыйнага ўбору ён апрануты ў адзенне выратавальніка. Аднак вусы і бараду мае, як у сапраўднага Дзеда Мароза. Навагодні персанаж распавядае прахожым пра тое, як правесці навагоднія святы, каб не было няшчасных выпадкаў.

Паводле сайта МНС.

## Сяржант растраціў грошы курсантаў і павесіўся

"Нашай Ніве" стала вядома пра трагедыю, якая ўвесну 2017 года адбылася на вайсковым факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР).

Выпускны курс меўся адзначаць заканчэнне вучобы: па курсанцкай завядзёнцы грошы на выпускны адкладаюцца з першага курса, так было і тут – курсанты здавалі ўнёскі свайму сяржанту, намесніку камандзіра ўзвода **Яўгену Б.**

Некалькі гадоў курсанты давяралі яму свае грошы, але бліжэй да выпускнога выявілася, што арганізаваць свята не ўдасца – сяржант патраціў сабраныя грошы на асабістыя патрэбы.

Курсанты звярнуліся па дапамогу да начальніка курса, але той толькі схаваў здарэнне ад кіраўніцтва факультэта. А неўзабаве кіраўнік змяніўся.

Новы начальнік падышоў да справы рашуча, пагаварыў з Яўгенам і – зноў-такі не паведамляючы свайму кіраўніцтву – узяў з яго слова вярнуць грошы.

У выніку сяржант папрасіў звальненне, каб нібыта з'ездзіць па грошы, але ўжо не вярнуўся. 30 сакавіка ён зрабіў сабе смерць.

"На выпускныя трэба ж сталы накрыць, машыны арандаваць і гэтак далей. Трэба было ўносіць папярэднюю аплату, а грошай – пуста. Яму трэба было кампенсаваць грошы да канца сакавіка, здаецца. Ніякіх падводных камянёў у гэтай гісторыі няма, на яго не ціснулі і з яго не здзекаваліся, як у Печах, напрыклад. Ён сам гэта [самагубства] зрабіў", – расказаў "Нашай Ніве" сваяк загінулага.

Сваякі таксама кажуць, што памер сумы, якую Яўген быў вінны, ім не паведамілі.

Аднагрупнікі хлопца, якія сталі лейтэнантамі, суму грошай таксама не называюць — кажуць, што ім цяжка і не хочацца пра гэта гаварыць.

Кіраўніцтва вайсковага факультэта БДУІР не каментуе здарэнне.

Паходзіў загінулы з Гродна. Ён трохі вучыўся ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, быў адлічаны за прагулы, аднак пасля паступіў у БДУІР.

Хлопцу было 26 гадоў.

Паводле "Нашай Нівы".

## Двое хлопцаў скралі ў Мінску 250 пляшак піва і частку выпілі

Яны пранiклі на тэрыторыю транспартнай кампаніі, дзе стаялі грузавікі з півам. Скрадзеную прадукцыю (253 пляшкі) перанеслі дадому аднаго з іх, а пазней пілі піва самі або прадавалі знаёмым, паведамляе ГУУС.

Затрыманыя (1995 і 1996 г.н.) нідзе не працуюць. Адзін з затрыманых раней прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за крадзяжы ровараў.

Заведзеная крымінальная справа па ч.2 арт. 205 (крадзеж). Санкцыя прадугледжвае максімальнае пакаранне да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

www.guvd.gov.by.

# Дзве смерці на дарогах Маладзечаншчыны адбыліся за выхадныя

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзве аварыі са смяротным зыходам адбыліся на Маладзечаншчыне ў мінулыя выхадныя, распавёў "Рэгіянальнай газеце" Юры Багушэвіч, старшы следчы Маладзечанскага РАСК.**



Па словах старшага следчага Юрыя Багушэвіча, абедзве аварыі адбыліся ў цёмны час сутак.

24 снежня каля 18:00 36-гадовы кіроўца, жыхар Маладзечна, на машыне "Фольксваген-Транспарцёр" ехаў з боку Насілава ў цэнтр горада.

Каля будынка "Белхола" ён наехаў на 53-гадовага жыхара Маладзечна. Ад атрыманых траўмаў той загінуў на месцы.

Па папярэдніх дадзеных кіроўца быў цвярозы. Дадзеных па загінулым няма.

Следчыя шукаюць сведак здарэння. Просяць іх патэлефанаваць у РАСК следчаму **Раману Арцем'еву** па тэлефоне **8 (0176) 58-07-84** або звярнуцца ў кабінет 110 Маладзечанскага РАСК на адрас: **Маладзечна, Прытыцкага, 23**.

Другая аварыя адбылася 25 снежня таксама ўвечары, у 18:30. Жыхарка Валожыншчыны на сваім "Рэно" ездзіла ў Маладзечна за пакупкамі. Увечары вярталася дадому. Каля Мойсічаў яна наехала на 51-гадовую жыхарку суседняй вёскі, якая загінула.

Па словах Юрыя Багушэвіча, аварыя адбылася падчас дажджу. Была вельмі дрэнная бачнасць на дарозе, не гарэлі ліхтары. Загінулая жанчына была ў цёмным адзенні і без флікера.

Па папярэдніх дадзеных, кіроўца была цвярозая.

Па дадзеным выпадку следчыя таксама шукаюць сведак. Звяртайцеся ў РАСК да следчага **Віктара Зяневіча** па тэлефоне **8(0176) 77-04-69** або ў кабінет 211.

Аксана ЯРАШОНАК.

## ДАІ праводзіць акцыю "Бяспечныя канікулы"

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 18 снежня да 8 студзеня ДАІ праводзіць акцыю "Бяспечныя канікулы".

Гэта робяць, каб забяспечыць прафілактыку правапарушэнняў сярод падлеткаў. Акцыяй супрацоўнікі ДАІ таксама хочуць папярэдзіць ДТЗ і іншыя няшчасныя выпадкі з удзелам непаўнагадовых падчас зімовых канікулаў.

Валянцін АСІПОВІЧ, начальнік Маладзечанскага РАУС.

## За 2017 год павялічылася колькасць злачынстваў на чыгунцы

МАЛАДЗЕЧНА

За 11 месяцаў у зоне абслугоўвання Маладзечанскай АУСТ зарэгістравалі 16 злачынстваў. Летась за такі ж перыяд – сем.

У цягніках здзейснілі 13 злачынстваў, тры – на станцыях, прыпыначных пунктах і перагонах. Найчасцей аб'ектамі злачынстваў станавіліся мабільныя тэлефоны, пашпарты. Былі выпадкі парушэння грамадскага парадку.

Напрыклад, 2 лістапада ў 6 раніцы у цягніку Мінск-Гудагай раней судзімы нецвярозы пасажыр збіў іншага.

Маладзечанскі АУСТ здымае з чыгуначнага транспарту нецвярозых. Такім чынам міліцыянеры пастаянна займаюцца прафілактыкай правапарушэнняў п'янымі.

Да адміністрацыйнай адказнасці за 11 месяцаў прыцягнулі 352 чалавекі. За такі ж перыяд летась – 475.

Каб не стаць ахвярай злачынстваў на чыгунцы, пільна сачыце за сваімі рэчамі, не давайце іх чужым і не піце алкаголь у транспарце.

За распіванне спіртных напояў у грамадскіх месцах пагражае штраф да васьмі базавых велічынь (да 184 рублёў).

Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ, інспектар групы прапаганды Маладзечанскага АУСТ.

## Следчыя шукаюць пасажыраў цягніка Мінск-Гудагай

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі РАСК шукае грамадзян, якія 2 лістапада 2017 года ехалі ў першым вагоне электрацягніка эканомкласа рэгіянальных ліній №6103.

Электрацягнік адпраўляўся ад станцыі "Мінск Пасажырскі" ў 04:40.

Следчыя просяць грамадзянаў, якія ехалі ў гэтым цягніку ад станцыі "Мінск Пасажырскі" да станцыі Маладзечна звярнуцца ў РАСК Маладзечна на адрас: Маладзечна, вул. Прытыцкага, 23, кабінет 208 да следчага Юрыя Багушэвіча або па тэлефоне 8 (0176) **77-24-31**.

Канфідэнцыяльнасць гарантуюць.

Юры БАГУШЭВІЧ, старшы следчы Маладзечанскага РАСК.

## На Вялікім Гасцінцы сутыкнуліся два аўтамабілі

МАЛАДЗЕЧНА

Сутыкненне адбылося 19 снежня ў 19:20.

39-гадовы жыхар Маладзечна ехаў па Вялікім Гасцінцы на аўтамабілі "Мерсэдэс-1840" з паўпрычэпам "Лаг" – прытым, што кіроўца быў пазбаўлены вадзіцельскага пасведчання па 2018 год.

Пры павароце налева ён не ўпэўніўся ў бяспецы і не прапусціў аўтамабіль "Фольксваген-Транспарцёр", які ехаў у сустрэчным накірунку. Кіраваў ім 29-гадовы мужчына. Адбылося сутыкненне.

У выніку кіроўца аўтамабіля "Фольксваген" і яго пасажырка, жыхарка Маладзечанскага раёна, вучаніца 11 класа, атрымалі цялесныя пашкоджанні. Абодвух шпіталізавалі, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці.

Паводле ДАІ Мінскай вобласці.

## Знайшлі больш за 600 літраў спірту

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю і наркакантролі Маладзечанскага РАУС у багажніку мікрааўтобуса знайшлі чатыры пяцілітровыя каністры са спіртам.

Малады чалавек быццам пачаў супрацоўнічаць са следствам і прызнаўся, што ў гаражы захоўвае яшчэ 150 літраў спірту. Казаў, што нядаўна прывёз спірт з Расіі і яшчэ не паспеў прадаць.

Аднак аператыўнікі вырашылі яшчэ раз агледзець мікрааўтобус. Пад сядзеннямі ў пасажырскай часткі салона знайшлі тайнік, дзе было яшчэ каля 80 пяцілітровых ёмістасцяў са спіртам.

Усяго ў мужчыны забралі 605 літраў спірту. Акрамя таго, знайшлі ў гаражы сорак літраў самагону і сто літраў фарбаванага дызельнага паліва. Усё гэта таксама канфіскавалі, а мікраўтобус арыштавалі.

Паводле УУС Мінаблвыканкама.



# Якія стравы паставіць на навагодні стол,

## каб сімвал года быў да вас лагодны

**2018 год апякуе Жоўты Земляны Сабака. Таму аздабленне стала варта вытрымаць ў жоўта-аранжавых колерах.**



Фота depositphotos.ru

Няхай ваш навагодні стол будзе смачны і душэўны.

Пажадана, каб стол быў небанальны, таму калі вашы дамашнія ніяк не змогуць без "Алів'е" і "Селядца пад шубай", паспрабуйце іх падаць незвычайна. Напрыклад, сервіруйце ў індывідуальныя прыгожыя салатнікі формачкай – ёлкай, зоркай ці хаця б цыліндрам. А "шубу" можна прыгатаваць у выглядзе рулета.

Абавязкова на стале павінны быць зеляніна і гародніна. Для дэсерта падрыхтуйце духмяную выпечку з рознымі начынкамі. А сярод напояў аддайце перавагу кактэйлям на розны густ ці глінтвейну. Асноўныя гарачыя стравы рабіце без лішку тлушчу і алею. Соусы прыгатуйце самі – часночны, сырны, грыбны ці таматны, а лепш адразу некалькі. Не варта рабіць стол залішне вострым.

Раім асабліва не захапляцца вялізнай колькасцю страў на стале. Абярыце галоўную мясную страву, рыбную і мясную закуску, сырную, гароднінную і фруктовую талеркі, дзве салаты і дэсерт. Давярце нескладаныя аперацыі мужу і дзецям, а самі гаспадыні павінны прысвяціць сабе дастаткова часу, каб блішчаць у чароўную ноч, як фея.

Не варта рабіць і тазікі салаты. Зрабіце столькі, каб хапіла на гасцей і гаспадароў. Лепш падрыхтуйце страву на 1 студзеня, напрыклад, замарозьце піцу ці кілбаскі, якія зможаце хутка прыгатаваць і частавацца свежым. І не забудзьце пра некалькі літраў мінералкі і парачку пласцінак аспірыну :).

### Салата з алеем "Скарб Павілля"

Склад: набор некалькіх відаў салаты, напрыклад, рукалы, айсберга і рамана – 200 г, памідоры чэры – 100 г, 1 свежы агурок, бляшанка кансерваваных шампіньёнаў, 1 курыная грудка, цвёрды сыр – 50 г, соевы соус, алей, лімонны сок, соль, перац.

У салатнай талерцы перамяшайце парваныя лісты салаты, парэзаныя папалам памідоры і парэзаны саломкай агурок. Пасаліце і паперчыце, дадайце лімонны сок, соевы соус і алей, перамяшайце.

Парэжце філе без скуркі на невялікія кавалачкі і засмажце да скарыначкі, прыправіўшы соллю і перцам. Выкладзіце ў салату. Засмажце грыбы і пакладзіце ў талерку. Усё перамяшайце. Пакуль курыца і грыбы цёплыя, пасыпце цёртым сырам. Ешце гэту салату першай, яна смачнейшая, калі грыбы і мяса яшчэ цёплыя. Можна іх падсмажыць раней, а перад застоллем разагрэць.

### Салата з маянэзам "Костка ўдачы"

Склад: ялавічына – 100 г, морква па-карэйску – 100 г, марынаваныя агуркі – 100 г, яйкі – 4 штукі, цыбуля – 2, маянэз, лаўровыя лісты і духмяны перац гарошкам, соль, молаты перац і алей.

Адварыце ялавічыну з духмяным перцам, лаўровым лістом прыкладна за 40 хвілін. Астудзіце і парэжце саломкай. Парэжце цыбулю і падсмажце на алеі да залацістага колеру. Бялкі аддзяліце ад жаўткоў і надзярыце на дробнай тарцы. Нарэжце саломкай агуркі.

У талерцы змяшайце ялавічыну, агуркі, моркву, цыбулю і жаўткі, прыпраўце маянэзам. Выкладзіце на плоскую талерку у выглядзе косткі, пасыпце бялком. Па баках выкладзіце зеляніну.

### Рыбная закуска "Свірская сняжынка"

Склад: цвёрды сыр – 100 г, кальмары – 3, вараныя яйкі – 2, маянэз і зялёная цыбуля.

1-2 хвіліны адварваем кальмараў пад накрыўкай. Больш трымаць нельга, таму што мяса стане цвёрдым. Націраем асобна жаўткі і бялкі на дробнай тарцы. Дробна рэжам кальмараў і цыбулю, змешваем іх, дадаём жаўткі і маянэз.

На іншай талерцы змешваем сыр і бялкі. З масы з кальмарамі робім шарыкі і ўкочваем у бялкі з сырам. Шарыкі можна пакласці ў спецыяльныя папяровыя падставачкі, каб яны нагадвалі цукеркі "Рафаэла".

### Закуска "Ашмянскі аганёк"

Склад: салямі – 15 тонкіх прыгожых скрылікаў, сыр – 50 г, чарнасліў – 15 штук, часнок – 3 зубкі, маянэз, кроп, лісце салаты.

Замачыце чарнасліў на 20 хвілін, прамыйце. У талерку надзярыце сыр, дадайце дробна парэзаны чарнасліў, выцісныты часнок і пасечаны кроп. Запраўце маянэзам і перамяшайце.

Выкладзіце масу лыжачкай на скрылёк салямі, размяркуйце начынку, закруціце рулецік. Калі трэба, прымацуйце зубачысткай. Пастаўце ў халадзільнік на 30 хвілін. Выкладзіце на талерку з салатай.

### Галоўная страва "Смаката"

Склад: свіныя рэбры – 700 г, соевы соус – 10 сталовых лыжак, 1 лімон, таматная паста – 70 г, мёд – 2 сталовыя лыжкі, часнок – 3 зубкі, прыправы для мяса, алей.

Змяшайце сок лімона, палову меры соевага соусу і лыжку алею. Дадайце выціснуты часнок, прыправы і лыжку таматнай пасты. Рэбры абмажце марынадам і пакладзіце ў халадзільнік на некалькі гадзін, а лепш на ноч.

Замарынаваныя рэбры пакладзіце ў рукаў для запякання і выпякайце 40 хвілін пры 180-200 градусах.

У патэльні змяшайце 5 лыжак соевага соусу, мёд, таматную пасту і некалькі лыжак вады. Кіпяціце глазур некалькі хвілін на моцным агні. Калі маса будзе загустая, дадайце больш вады.

Абмажце рэбры глазурай і пакіньце у духоўцы адкрытымі на 10-15 хвілін. Падавайце з запечанай па-сялянску бульбай.

**Эмілія ХВОЯ.**

# "Асоба года-2017" – валожынцы Крэйнісы

**Сёлета мы ў чацверты раз правялі галоўную акцыю года – выбар самага адметнага героя публікацый "РГ".**

Пераможцаў мы абіралі на пасяджэнні рэдакцыі 22 снежня. Званнем "Асоба года-2017" узнагароджаны **Алена** і **Ігар Крэйнісы** з Валожыншчыны, якія стварылі прытулак для жывёл, знайшлі сталае фінансаванне для яго дзейнасці, уладкоўваюць гадаванцаў у розныя гарады краіны і за мяжу, а таксама прапануюць паслугі гасцініцы для сабак.

Падобнай дзейнасцю займаюцца і валанцёры з Вілейкі. Адна з іх, **Аксана Чыжыкава-Кузьміна**, працягвае даглядаць за жывёламі і пасля закрыцця прытулку.

Як і летась, мы вырашылі не абмяжоўвацца галоўнай узнагародай. Леташнюю намінацыю "Натхненне года" мы аддаём мастаку **Базінато** – таму самаму, што адкрыў нашумелую галерэю на сметніцы падчас Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне.

Подых свежасці і крэатыўнасці ад гэтай падзеі, спадзяёмся, акрыляе і іншых творцаў.

Для калектыву рэдакцыі асабліва важныя тэмы захавання прыроднага багацця і спадчыны. І мы з павагай ставімся да людзей, якія дбраахвотна дбаюць пра чысціню і рэсурсы навакольнага асяроддзя. Таму **Аляксандр Дарашэвіч**, арганізатар прыборкі Сарачанскіх азёраў на Астравеччыне, падчас якой вывезлі 2 500 літраў смецця, заслугоўвае тытулу "Учынак года-2017".

У намінацыі "Прыз глядацкіх сімпатый" пераможцу выбіралі праз галасаванне на сайце. Першынство атрымала віляйчанка **Жанна Гардынец**, што змагаецца за паляпшэнне ўмоў ангадыспансера. Яна сабрала 28,7% галасоў.

За Жаннай у галасаванні ідзе валожынец **Алесь Белы** (20,2%), які выдаў кнігу "Сакатала бочачка", а пасля яго – віляйчане **Аляксей Сюдак**, **Максім Ціханаў** і **Аляксей Пасынкаў** (17,4%) – адны з абаронцаў памятнага месца Курапаты ад забудовы офісамі.

Навагодні час багаты на цуды, і хочацца рабіць дабро без перапынку. Вось і мы вырашылі адзначыць таксама **Дар'ю Ліс** з Залесся, якая дамаглася ўладкавання пандуса ў адной з медустаноў Маладзечна. Таксама **Леаніда Куляша** з Вілейшчыны.

Спачатку мы адзначылі яго за ўнушальнае ўменне вырошчваць на лецішчы грыбы. А пасля атрымалі ліст, у якім нам падказалі, што "гэта не самае яркае яго дасягненне ў гэтым годзе. Ён заслугоўвае павагу за тое, што з аднадумцамі паставіў у вёсцы Пляшчаны помнік жыхарам вёскі, што зніклі ці загінулі ў 1930-1940-х гадах 20 стагоддзя".

Сапраўды, Леанід нават дазволіў усталяваць шыльду на сваім участку.

Дар'ю і Леаніда чакае падарунак ад рэдакцыі.

Да кандыдатаў на званне ад рэдакцыі па прапанове чытачоў мы дадалі Аксану Чыжыкаву-Кузьміну і віляйчаніна **Міхася Куляша**, які паспяхова правёў сёлета некалькі персанальных фотавыстаў. Агулам мы назвалі 31 прэтэндэнта.

Усіх пераможцаў чакае ўзнагароджанне ад рэдакцыі, пра што запрашаем вас чытаць на нашых старонках ужо ў 2018 годзе. Летась Асобай года стала арганізатарка "Жывой бібліятэкі" ў Маладзечне **Юлія Мароз**.

Рэдакцыя вырашыла заснаваць дадатковa дзве намінацыі – "Натхненне года", якую атрымаў невідушчы спявак **Данік Савеня** і "Учынак года", якім назвалі **Адама Мальдзіса**.

Асобай года 2015 стаў вілейскі краязнаўца **Дзяніс Канецкі**.

Асобай года 2014 стаў на той момант вучань 11 класа з Маладзечна **Уладзімір Грахоўскі**, які выратаваў дзіця.

**Калектыў "РГ".**




Куплю

Прадам

Зраблю

# Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра Ф, 1,6 мона, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Пежо-205, 605 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*

• Сітраэн-Ксантыя ў выдатным стане, торг, 5000 рублёў. Т. (8-025) 9298699.*

• Хундай-Лантра, 1993 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Шыны зімовыя R-15, летнія R-14, шыны з камерай R-13, дыскі – Масквіча, адзін – Міцубісі. Т. (8-029) 5771112.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Аўто ў любым стане. Дорага. **ПА ПРЫВАБНАЙ ДЛЯ ВАС ЦАНЕ**. Т. (8-029) 7087762.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля 2016, 2 паверх, цэгла. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*

• 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе ў Вілейцы. Т. МТС (8-033) 3209337, (8-033) 3209338.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Мядзеле, 2011 год. Т. Вэлком (8-029) 3845481, МТС (8-033) 6355302.

• 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай, 42. Магчымы абмен на 1-пакаёвую + даплата. Т. (8-033) 6452435.

• 4-пакаёвая кватэра 81,1 кв. м у Смаргоні альбо абмяняю на 2-пакаёвую ў Смаргоні. Т. (8-033) 6023097.

• 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2/5, побач гімназія №10, парк, магазіны,ёсць зручная паркоўка. 98) 8726237.*

• Гараж і гаражныя боксы. Т. Вэлком (8-029) 3958593, МТС (8-029) 7748664.*

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы ўцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.

• Гараж у ГК-3 12 г. Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 6385144.*

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у Вілейцы, усе камунікацыі. Т. (8-033) 3209338.*



### ЗДАМ

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*

## ПАСЛУГІ

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by

• Дзед Мароз павіншуе з Новым годам. Т. (8-029) 6201941.

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Рамонт зварачных інвентараў, зарадных прылад, мікрахвалёвак. Наяўны і безнаяўны разлік. Выезд да кліента. ІП Лукошка А.К. УНП 591811742. Т. (8-029) 3149689, (8-029) 5243001.

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў любой складанасці. ПУП "Рункомп" УНП 6902552869. Т. МТС (8-033) 3788997, (8-029) 3788997.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

**РОЗНАЕ**



**ПРАДАЕЦЦА**

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40, навяснае, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

• Трактар МТЗ-80, 1988 г.в. Т. Вэлком (8-044) 5539968.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Парасяты в'етнамскія. Т. (8-0440 7663204, (8-029) 7663204.*

**Іншае**

• Валёнкі ручной работы. Т. (8-029) 8387154.

• Ванна чыгунная 70х170 б/у, дзверы металічныя б/у з рамай. Т. (8-029) 8644845.*

• Дрэваапрацоўчы станок, конныя калёсы (тэлега). Т. (8-029) 8754610.

• Пілавінне, гарбыль з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

**КУПЛЮ**

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Быка, карову, цяля, кабана. Т. (8-029) 1205621, (8-025) 9672244.*

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

• Цялушку ад высокаўдойнай каровы. Т. (8-029) 3691554.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Даведнік па электроніцы, тэсты па псіхалогіі. Т. (8-044) 7294912.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

• Шкуркі куніцы, выдры. Т. (8-029) 8552646.*

**ПРАЦА**



**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Вытворчаму прадпрыемству патрабуюцца зваршчыкі. Аплата працы высокая (здзельная). УП «Сталлюкс» УНП 691173808. Тэл. Для сувязі (8-044) 7196784 Валянцін.

• Маладзечанскаму гарраайаддзелу па надзвычайных сітуацыях на конкурснай аснове патрабуюцца пажарныя, вадзіцелі. Патрабаванні да кандыдатаў: узрост да 30 гадоў, служба ва Узброеных Сілах, добрая фізічная падрыхтоўка. За даведкамі звяртацца на адрас: г.Маладзечна, вул. Віленская, 7. Аддзел кадраў, тэл. 77-18-22, 77-15-26.

• Шукаю спецыяліста агледзець калодзеж. Т. (8-044) 7294912.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Цырульнік з выездам дадому па горадзе Вілейка і раёне. Т. (8-029) 2725583 Анастасія.*



# Памёр былы рэктар БДУ акадэмік Фёдар Капуцкі, выпускнік СШ №1 у Маладзечне

**Фёдар Мікалаевіч Капуцкі нарадзіўся 10 студзеня 1930 года ў вёсцы Селівонаўка Маладзечанскага раёна. У 1949 годзе скончыў сярэднюю школу №1 у Маладзечне.**



Пасля заканчэння хімічнага факультэта БДУ (1954) працаваў там асістэнтам, выкладчыкам, дацэнтам. Ад 1965 да 1973 года быў дэканам хімічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

Ад 1973 года працаваў намеснікам, а затым першым намеснікам міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР. Фёдар Мікалаевіч Капуцкі таксама быў першым дырэктарам Навукова-даследчага інстытута фізіка-хімічных праблем.

Ад 1990 да 1996 года працаваў рэктарам Белдзяржуніверсітэта, на гэтай пасадзе яго змяніў **Аляксандр Казулін.**

Паводле "Нашай Нівы".

# Выхаванцы смаргонскага сацыяльна-педагагічнага цэнтра акунуліся ў "Навагоднюю феерыю"

СМАРГОНЬ

**Іскрысты снег, ялінка, полымя свечак, чаканне цуду і падарункаў. Напэўна, менавіта такім у памяці з дзяцінства ўбольшасці з нас захаваўся Новы год.**

І цяпер так важна падарыць гэту казку нашым дзецям. У такую казку трапілі выхаванцы сацыяльна-педагагічнага цэнтра Смаргоні. Іх запрасілі на свята "Навагодняя феерыя" ў Лядовы палац Маладзечна.

Навагодняе прадстаўленне пачалося адразу ж у фае палаца. На размаляваных санках з'явіліся Дзед Мароз са Снягуркай у суправаджэнні сваёй світы. Дзеці віталі іх.

Дзед Мароз запрасіў усіх падняцца ў залу. Але здарылася неспадзяванка: дзверы замкнула Баба Яга. Гэты казачны персанаж доўга не хацеў усіх пускаць, але нарэшце Дзед Мароз знайшоў з ёй паразуменне, і ўсе ўвайшлі ў залу.

Тут іх сустрэла матухна Завіруха і прапанавала дзецям пачастунак з цуда-печкі і гарачы чай. Пасля чаявання былі атракцыёны. Кожнае дзіця выбірала тыя гульні, якія яму даспадобы. За ўдзел давалі прызы.

Некаторыя чыталі вершы пра зіму і Новы год, каб парадаваць Дзеда Мароза і Снягурку.

Пасля атракцыёнаў зладзілі казачнае прадстаўленне "Спячая прыгажуня". Дзеці слухалі музыку, знаёміліся з танцамі, якія раней танцавалі на балях, адзенем, што насілі ў далёкія часы.

На заканчэнне свята арганізатары прапанавалі навагоднюю дыскатэку з Дзедам Марозам, Снягуркай і іншымі казачнымі персанажамі. Падчас танцаў з'явіліся роставыя лялькі, радасці стала яшчэ больш. Дзеці імкнуліся паўтараць рухі за кожным героем, стараліся прытуліцца, абняць, сфатаграфавацца з той лялькай, якая спадабалася.

**Больш-менш супакоіць усіх змаглі Дзед Мароз са Снягурачкай, якія пачалі раздаваць дзецям салодкія падарункі.**

Нашы выхаванцы былі вельмі задаволеныя. Вочы блішчэлі на іх чырвоных тварыках. На дарозе ў Смаргонь дзеці прыгадвалі асабліва яркія моманты свята і дзівіліся, як упрыгожаны да Новага года вячэрні горад Маладзечна.

Тамара ЛАПО, сацыяльна-педагагічны цэнтр Смаргоні.



# Дзённік мамы першакласніцы: Ура! Нас пахвалілі за пісьмо



МАЛАДЗЕЧНА

**У першым класе Варвары адноль-кава падабаюцца і чытанне, і матэматыка.**

Любіць і беларускую мову. Мяркую, не толькі таму, што яна родная. У першым класе беларуская мова – вусная. Бо з пісьмом да нядаўняга часу было цяжкавата. Стагнала над кожнай літарай.

А тут днямі прыходжу забіраць яе, а шчаслівая Варвара кажа:

**"Мама! Мяне сёння пахвалілі за пісьмо. Я такі складаны сказ напісала – "У Тані – торт".**

Па матэматыцы вучым прыклады да дзявяці. Добра ведаем, як называюцца прадметы адзення і мэблі на роднай мове. З выхавальніцай у прадлёнцы пісалі пісьмо ў 2018 год. За кожны дзень нязменна атрымліваем "жоўтыя квадраты" ў дзённік – гэта значыць, добрыя паводзіны.

У школе Новы год адчуваўся ўжо тыдні за тры: шыкоўная ілюмінацыя на ганку, фанерныя Дзед Мароз і Снягурка – у фае, шматлікія святочныя выцінанкі на вокнах.

Першакласнікі развучылі навагодні танец, а школьныя песні да свята па вечарах дома слухала ўся сям'я, а можа, яшчэ і суседзі. Вывучылі верш пра снег. Усе ўменні прыдаліся на ранішніку, што адбыўся 23 снежня.

А яшчэ вучні пачатковай школы зладзілі выставу аб'ёмных навагодніх вырабаў. Трэба было прыняць удзел. Да дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў нашай сям'і ніхто не мае здольнасцяў.

Доўга шукалі ў інтэрнэце, на што хопіць нашых невялікіх магчымасцяў. У выніку зрабілі markup рознакаляровую папяровую ёлачку з Варварыных далонек. Канешне, на фоне амаль сапраўдных хатак з ватных палачак і вязаных гномаў наша ёлачка глядзіцца сціпленька, але, галоўнае, – ад душы.

Апошнім часам, больш чым пра пісьмо і матэматыку, размаўляем пра навагодні ранішнікі. Іх сёлета атрымалася цэлых тры: у "Батлейцы", у Лядовым палацы і ў школе. Цукеркамі засыпаліся.

Карнавальны касцюм? На адным з ранішнікаў Варвара была прынцэсай. На двух наступных – Мышкай. У кароткай сукеначцы зручней карагоды вадзіць і ў конкурсах удзельнічаць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




**Вось такую ёлачку мы зрабілі на выставу навагодніх вырабаў у школу.**



## Трымайце бланк на наступную чвэрць

**Зімовыя канікулы – час набрацца сіл на новую чвэрць.**

Атрымлівайце 9 і 10 па любых прадметах, запаўняйце бланкі з газеты, дасылайце ў рэдакцыю.

Раскажыце пра конкурс у сваіх класах. Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа!

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любой школы ці гімназіі рэгіёна, якім споўнілася 12 год.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за гэты навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№52)

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ________________________
3. Клас
   Школа________________________
4. Населены пункт________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ________________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")________
8. Дата атрымання адзнакі ________________________
9. Імя, імя па бацьку ________________________
10. Прозвішча настаўніка ________________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам________
12. Подпіс настаўніка________________________

# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"

**Адказы на крыжаванку з №51.**
**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Морс. 3. Сахарын. 4. Амбідэкстар. 6. Рэпін. 8. Ізалятар. 10. Біткойн. 12. Муфтый. 14. Мязга. 15. Стыхія. 16. Афіша. 17. Сцежка. 18. Карпенка. 22. Фаза. 23. Сувей. 26. Ахвота. **ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Сфера. 5. Баруны. 7. Стэк. 9. Мікрафон. 11. Імерсія. 12. Млосць. 13. Мошчы. 15. Стыль. 16. Аўтаген. 19. Інжыр. 20. Астана. 21. Калдуны. 24. Ачаг. 25. Фетр.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Найлепшы навагодні падарунак для кітайцаў.
3. Самы смелы воін траянскага войска, сын Прыяма і Гекубы.
6. Нярodны чалавек.
7. Дорыць навагоднія падарункі італьянскім дзецям.
9. Неатрутная змяя ў Беларусі, занесеная ў Чырвоную кнігу. У краіне іх прыкладна 2 000-3 000.
10. Нераставаральнае ў вадзе масляністае рэчыва.
14. Прыстасаванне, дзе распальваюць і падтрымліваюць агонь.
16. Традыцыйная форма правядзення вольнага часу славян для моладзі ў зімовы час.
17. Старажытнарымскі бог, апякун Новага года, сімвал выбару, дзвярэй і ўсіх пачаткаў.
20. Населены пункт Астравецкага раёна, у якім размяшчаўся палац Абрамовічаў.
22. На Кубе ў навагоднюю ноч неабходна паспець з'есці іх 12 штук, пакуль гадзіннік не прабіў поўнач.
24. Мястэчка нашага рэгіёна, дзе ў 1385 годзе выпрацавалі ўмовы дзяржаўна-прававога аб'яднання ВКЛ і Польшчы.
25. Камічны, забаўны чалавек.
26. Вілія на захад ад мяжы з Літвой.
30. Кныр.
35. Населены пункт нашага рэгіёна, вядомы ад 1341 года як замак вялікіх князёў, а статус горада атрымалі ад Вітаўта.
36. Месца, дзе прадавалі спіртныя напоі, з магчымасцю застацца начаваць.
39. Афарбоўка гуку.
41. Максім Багдановіч: "Як ..., белыя бярозы Пад сінявой начной стаяць".
42. Бог свяшчэннага пахавальнага агню ў старажытных беларусаў. Ператварае цела і рэчы нябожчыка ў попел і вызваляе яго душу. І гасіць зорку, запаленую Белабогам падчас нараджэння дзіцяці.
43. Вёска ў Валожынскім раёне, дзе былі надрукаваныя кнігі Сымона Буднага.
44. Вялікі князь літоўскі, папярэднік Гедыміна.
45. Якуб Колас: "Я не буду доўга, зараз жа вярнуся, Трошачкі на рэчцы ў санках ...".
47. Калі яго вучэнні сталі вядомымі на Захадзе, яго празвалі "кітайскім звонам".
48. Злосная і сварлівая жанчына.
49. Самы стары чалавек у Бібліі, які памёр у 969 год.
50. Мера даўжыні, роўная 2,54 см.
51. Наўмысна ўвесці ў зман.
52. Што такое жыццё чалавека з пункту гледжання будызму?
53. Драпежнае млекакормячае з сямейства куніцыных, што знікла ў Беларусі ў сярэдзіне 19 стагоддзя і занесенае ў Чорную кнігу.
56. Плошча ў Вільні, на якой быў павешаны Кастусь Каліноўскі.
58. Прадмет або жывая істота, прынесеныя ў дар бажаству паводле абрадаў некаторых рэлігій.
62. Язычніцкі бог беларусаў, які распараджаецца падземным агнём.
65. Іудзейскае свята агнёў, якое адзначаюць цягам васьмі дзён.
67. Калі самотна і кепска.
69. Паміж горадам і вёскай.
71. Тое, што дазволена ў ісламе.
72. Так беларусы называюць Вянеру.
75. Назавіце жывёліну, чыя назва на лацінскай мове азначае "цаглінка, чарапіца, гліняны сасуд".

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Неабходная, істотная, неад'емная ўласцівасць прадмета або з'явы.
4. Правасуддзе, суднаводства.
5. Колькасць экзэмпляраў.
7. Свяцільня, звычайна ў выглядзе палкі з намотаным на канцы прасмоленым пакуллем.
8. Падчас смяротнага пакарання самага маладога чалавека ў гісторыі ЗША, яе паклалі на электрычны стул, каб асуджаны дастаў да шлема, праз які праходзіў ток. Джорджа Сціні асудзілі за забойства дзвюх дзяўчынак. На момант смяротнай кары ў 1944 годзе яму было 14 год. Праз 70 год прыгавор адмянілі.
11. Кім сябе ўяўляла медзведзяня з мульціка "Зімовая казка".
12. Штат ЗША, які называюць штатам Расамахі ці Вялікіх азёр.
13. Урачыстая сустрэча палкаводца і яго войска ў Старажытным Рыме ў сувязі з дасягнутай перамогай.
15. Рэдкая, незвычайная, выключная з'ява.
18. Што, паводле Бібліі, стварыў Бог на чацверты дзень?
19. Своеасаблівая якасць апрацоўкі матэрыялу, яго паверхні.
21. Адна з глаў Карана.
23. Імя прафесара з твора Міхаіла Булгакава "Сабачае сэрца".
27. Трапічная каралева кветак.
28. Васіль Быкаў: "... чалавека не выхаваеш".
29. Ляшчыннік.
31. Транспарт французскага Дзеда Мароза Пер Ноэля.
32. Індзейская народнасць Мексікі.
33. Пасудзіна асобай будовы, якая не дае змешчанаму ў ёй астываць або награвацца.
34. Рымскі імператар, які ўстанавіў, што святкаванне Новага года адбываецца 1 студзеня.
37. Трошкі, крыху.
38. Гэта расліна ўпрыгожвала герб Маладзечна ў 1990-я.
40. Старажытны суперкантынент, які ўключаў Афрыку, Паўднёвую Амерыку, Антарктыду, Аўстралію, Новую Зеландыю, Аравію, Мадагаскар і Індыю.
46. Старадаўняя беларуская гульня для святак. Гулялі ў жартаўлівае вяселле з імітацыяй абрадаў.
51. Зборнік геаграфічных, гістарычных і іншых карт.
53. Краіна, чыя сталіца Бухарэст.
54. Населены пункт нашага рэгіёна, які атрымаў магдэбургскае права ў 1762 годзе.
55. Сталіца Абхазіі.
57. Значок на ігральнай карце ці косці, які абазначае яе вартасць у гульні.
58. Аб'ява аб спектаклі.
59. Асобны раздзел, параграф.
60. Доўгая верхняя вопратка з выробленых аўчын.
61. Інфекцыйны агент, які можа ўтварацца толькі ў жывых клетках. На лаціне – атрута.
63. Яны святкавалі замест Новага года Самайн 31 кастрычніка – канец збору ўраджаю. У гэты дзень палілі кастры, спявалі і танцавалі, каб нячысцікі не змаглі выйсці вонкі.
64. Магічныя прыёмы, пры дапамозе якіх можна ўздзейнічаць на людзей і прыроду.
66. Адсутнасць выстралу пры спуску курка.
68. Кароткі вусны загад камандзіра па ўстаноўленай форме.
69. Аўтар сцэнарыя першага мультфільма "У Афрыцы горача", знятага студыяй "Саюзмультфільм".
70. У перакладзе з грэчаскай – марская пачвара.
73. Вялікі князь літоўскі, што выдаў прывілей 1447 года, які замацаваў шырокія правы баяр.
74. Матэрыя, рэчыва, што так ці інакш абмежаванае ў прасторы.

# Каб ехаць на конкурс, адгадаваў бараду і набыў валёнкі

## Разьбяр з Мядзельшчыны распавёў пра ўдзел у конкурсе ледзяных скульптур у Томску

МЯДЗЕЛ

**Да нядаўняга часу майстар з Купы Юрась Камандзірчык рабіў свае працы з дрэва. А цяпер мае досвед, як ствараць скульптуры з лёду.**

17 снежня наш зямляк вярнуўся з конкурсу "Крыштальны Томск-2017". На працягу тыдня з ранку і да цямна Юрась Камандзірчык у камандзе з разьбяром з польскага Гданьска **Робертам Выскелем** выразалі з лёду скульптурную кампазіцыю.

Роберт запрасіў беларускага сябра і калегу ў Томск, каб паўдзельнічаць у конкурсе адной камандай. З Мінска да Масквы Юрась ляцеў на самалёце гадзіну. Пасля – з Масквы да Томска – яшчэ чатыры. Розніца томскага часу ад прывычнага беларускага – чатыры гадзіны. Аднак, па словах скульптара, ніякай нязручнасці ў сувязі з гэтым ён не адчуў.

### Чаму "Зюзікі з Белавежы"?

Сваю каманду беларус і паляк назвалі "Зюзікі з Белавежы". Чаму так? Па словах Юрася, Белавежская пушча – тое месца, якое яднае Беларусь і Польшчу. А "зюзікі" – вытворнае ад назвы "Зюзя". Так нашы продкі называлі Бога зімы.

У Расіі ж "зюзікі" – значыць, загульныя хлопцы. Таму ў рускамоўным перакладзе замест "Зюзікі з Белавежы" атрымалася "Покровители зимы".

– Да гэтага я ніякіх спраў з лёдам не меў, – распавядае Юрась. – Не было асаблівага доследу і ў Роберта. Ён увогуле першы раз пабачыў сапраўдны мароз і снег.

Перакваліфікавацца было не складана. Аказалася, з лёдам працаваць не цяжэй, чым з дрэвам. А ў нечым нават і прасцей. Па словах скульптара, часам доўга хочаш увасобіць ідэю з дрэва, а не можаш, бо не знаходзіцца месца, каб паставіць яе. З лёдам прасцей.

Скульптура "Ярыла і сейбіт", што паўстала з лёду ў Томску, "на паліцы" ў майстра ляжала каля дзесяці год. А тут атрымалася ўвасобіць яе. Тым больш, кампазіцыя вельмі пасавала да агульнай тэмы конкурсу – "Міфалогія славян".

### Як на сібірскім лёдзе з'явілася беларуская вышыванка

Ведаеце, як выглядае цяпер беларуска-польская ледзяная скульптура ў Томску. Над вялікай брамай ляціць, перамагаючы цемру і вітаючы ўсіх, славянскі Бог сонца – **Ярыла**.

Пад ім – салярныя знакі. Старажытныя сакральныя сімвалы Белабога, сонца, маладосці. Якраз тыя, якія Юрась Камандзірчык, нібыта візітоўку, пакідае ці не на ўсіх сваіх драўляных творах.

> **– Гэта знакі, якія вышывалі ў ранейшыя часы нашы бабулі і прабабулі на ручніках. Гэта тая тэма, без якой не абыходзяцца мае творы. Атрымаўся той жа ручнік, толькі ў іншым матэрыяле, – растлумачыў майстар.**

Брама – гэта ўваходпартал у паралельны свет. Справа – ледзяная Камянецкая вежа – сімвал нескаронасці ліцвінаў-беларусаў. Бо яна ніколі не была захопленая ворагамі. Над вежай – буслы. З другога боку, белавежскі зубр і сейбіт, які кідае ў зямлю збожжа, – сімвал новага жыцця.

### "Створанае – значыць, вечнае"

Тое, што лёд – матэрыял не даўгавечны, не засмучае творцу:

– Мы зрабілі сваю кампазіцыю, сфатаграфавалі яе. Ёсць фотаздымкі, якія разышліся па сецыве. Створанае – значыць, вечнае, – перакананы творца.

> **Матэрыял для ледзяных скульптур бралі з мясцовых рэк і азёр, якія да сярэдзіны снежня ўжо добра замерзлі.**



Над скульптурай "Ярыла і Сейбіт" майстры працавалі тыдзень.




Беларус Юрась Камандзірчык (злева) і паляк Роберт Выскель працавалі разам.



"Думаў – Снягурка, аказалася – Зіма".

Пілой выпілоўвалі вялікія пліты таўшчынёй каля 30 сантыметраў і два метры ў вышыню і спецыяльнай тэхнікай кожную ледзяную пліту даставалі на бераг. Праз дзень-два палонка зноў замярзала.

У цэнтры Томска на Новасаборнай плошчы Ярыла "з кампаніяй" будуць стаяць дакладна да сакавіка. Бо да гэтага часу ў Томску моцныя маразы.

Пытаюся ў Юрася, як жа ён змагаўся з маразамі падчас працы.

– Маразы цэлы тыдзень былі пад 20 градусаў. Але ў Томску сухі клімат, таму такіх вялікіх лічбаў зусім не адчувалася. У нас, у Беларусі, пры "мінус пяці" куды больш адчуваеш холад. Да таго ж я падрыхтаваўся да сібірскай вандроўкі: набыў у майстра шапавала з Паставаў валёнкі з галёшамі, у якіх працаваў, і адгадаваў бараду. Ды і за працай ўвесь час былі: цэлы тыдзень, ад раніцы да шасці-васьмі гадзін вечара.

Вынікамі "Зюзікі з Белавежы" задаволеныя. Нарэшце атрымалася ўвасобіць сваю ідэю, што надзвычай важна для майстра. А яшчэ Юрась Камандзірчык падзяліўся, што Ярыла і Сейбіт праз нейкі час могуць з'явіцца і ў Беларусі. Толькі будуць яны драўляныя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота fb.com.**

**Даведка "РГ".** Конкурс "Крыштальны Томск" ладзяць ад 2014 года на Новасаборнай плошчы ў цэнтры горада. Удзельнічаюць каманды скульптараў з далёкага і блізкага замежжа. Сёлета фестываль увайшоў у топ-10 лепшых зімовых мерапрыемстваў Расіі.



# У Маладзечне з'явілася відэарэклама, у Вілейцы адкрылі басейн

## Што прыносіў у рэгіён год Сабакі

ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ

**Якім будзе надыходзячы год Сабакі, мы пакуль сказаць не можам. Але гартаючы падшыўкі старых газет і праглядаючы інтэрнэт-сайты, мы можам сказаць, што прыносіў Сабака ў рэгіён у мінулыя гады.**

### 1946

У красавіку ў Маладзечне пачалі распрацоўваць новы генплан забудовы горада і заклалі парк Перамогі, увялі ў эксплуатацыю гарадскі стадыён.

5 ліпеня 1946 года – дата ўтварэння Вілейскага раёна. У лістападзе ў Вілейцы на базе гарадскога аддзялення міліцыі стварылі гарадскі аддзел МУС. Вілейскі касцёл пачалі выкарыстоўваць як склад. Вернікам яго вярнулі ў 1990.

Адбыўся першы выпуск Валожынскай школы №1. Выпусцілі 14 дзесяцікласнікаў. На Валожыншчыне пачалі працаваць амбулаторыя, фельчарска-акушэрскія пункты, зубапратэзная майстэрня.

У раёне возера Нарач першая навуковая экспедыцыя знайшла мінеральныя крыніцы і лячэбныя гразі. На беразе возера пабудавалі біялагічную станцыю БДУ, дзе назіраюць за экалогіяй Нарачанскіх азёраў.

### 1958

У 1958 годзе ў Маладзечне на плошчы Леніна (цяпер Цэнтральная плошча) паставілі помнік Леніну. Аўтар помніка – скульптар **Заір Азгур**.

Адбыўся першы набор у Маладзечанскае музычнае вучылішча. Сёння гэта музычны каледж імя Агінскага. На той момант будынак месціўся амаль на ўскрайку горада.

Першыя турысты разбілі палатачны лагер на беразе возера Нарач.

У снежні стварылі Валожынскую будаўнічую міжкалгасную арганізацыю. Сёння гэта ПМК-188.

### 1970

У Маладзечне дзейнічала 13 устаноў культуры без бібліятэк. Клубы, летняя эстрада парку, кінатэатры – агульнай колькасцю 4220 пасадачных месцаў.

Ад гэтага года ў Маладзечне пачалі адзначаць тысячных нованароджаных.

Валожынская раённая бібліятэка пераехала на новае месца – у цокальны паверх новага жылога дома па вуліцы Партызанскай.

### 1982

У гарадскім парку ў Маладзечне ўзвялі абеліск "Савецкім воінам і партызанам", якія вызвалілі горад у 1944 годзе. Мемарыял вышынёй 25 метраў стварылі з бетону, бронзы, ракушачніку, граніту, медзі. Сёння мемарыял з-за двух бетонных абелiскаў неафіцыйна называюць "прышчэпкай".

У Мядзеле пачалі ўзводзіць новы будынак музея народнай славы. Першая экспазіцыя прыняла наведнікаў праз тры гады.

### 1994

Ад 1994 года на базе тэатра ў Маладзечне праводзяць фестываль майстроў тэатральнага мастацтва "Маладзечанская сакавіца".

У Вілейцы стварылі акцыянернае таварыства "Буддэталі".

Каля будынка былой вілейскай турмы падчас будаўніцтва корпуса анкалагічнага дыспансера знайшлі шмат парэштак рэпрэсаваных. Правялі памятныя мерапрыемствы.

### 2006

У снежні 2006 па маршруце Чысць-Уша пачалі хадзіць маршрутныя таксі павышанай умяшчальнасці. Да гэтага часу мікрааўтобусы індывідуальных прадпрымальнікаў умяшчалі 14 пасажыраў. Ахвотных праехаць па маршруце было значна больш. Таму маладзечанскі аўтапарк №4 выдзеліў аўтобус ПАЗ з умяшчальнасцю 30 сядзячых месцаў.

Зімой у гандлёвых цэнтрах Маладзечна з'явілася відэарэклама. Маніторы, што паказвалі рэкламныя ролікі, устанавіў мясцовы прадпрымальнік **Мікалай Кубіцкі**.



ВЫСТУПЛЕННЕ

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

**Сцяг Кастрычніка**

Орган Маладзечанскага райкома КП Беларусі і раённага Савета дэпутатаў працоўных

Серада, 1 студзеня 1958 г. | ЦАНА 15 КАП.

З Новым годам, дарагія таварышы

**Год 1958-ы**

С новым Годом!

Рапарты працоўных перамог



Фота Наталлі ТУР.

Маладзечанская абласная газета "Сцяг Кастрычніка" віншуе чытачоў з Новым 1958 годам.

Прадукты маладзечанскага мясакамбіната жыхары і госці горада змаглі купляць у першым фірменным магазіне прадпрыемства, які адкрыўся 4 лютага.

16 сакавіка, са спазненнем на два тыдні ад прызначанай даты, адчынілі будынак басейна ў Вілейцы, які прастойваў 15 год.

23-25 сакавіка супрацоўнікі МНС узарвалі ў Маладзечне будынак былога інтэрната ПТВ-21. Ад сярэдзіны 1990-х ён быў непрыдатны для жыцця.

У маі ў Маладзечне ўпершыню правялі аперацыю па эндапратэзаванні тазасцегнавога сустава. Аперацыя доўжылася дзве гадзіны. Кіраваў аперацыяй галоўны траўматолаг Мінскай вобласці **Аляксандр Маслаў**. Аперацыя, якую рабілі жыхарцы Маладзечна, прайшла паспяхова.

Ля вёскі Снежкава на Вілейшчыне адкрылі помнік экіпажу СУ-2 на месцы яго гібелі 24 чэрвеня 1941 года.

Каля 70 майстроў сабралася на абласным свяце-конкурсе "Гліняны звон" у Мядзеле.

У вёсцы Красны Беражок на Вілейшчыне кінагрупа з Расіі здымала фільм "Ворагі". Таму былі тут і ўзброеныя салдаты гітлераўскай арміі, і нацысцкі сцяг над адной з хат.

14 ліпеня на глыбіні прыкладна 120 сантыметраў з дапамогай металашукальніка ў Івянцы знайшлі звон. У 1944 годзе звон скінулі па загадзе акупацыйных уладаў і закапалі каля будынка.

У вёсцы Занарач на Мядзельшчыне адчынілі амбулаторыю, пабудаваную па нямецкіх тэхналогіях з экалагічна чыстых матэрыялаў.

10 лістапада адчынілі новы будынак Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне. Тут, за кінатэатрам "Радзіма", музей месціцца і сёння.

У лютым Маладзечна ўскалыхнула гучнае злачынства. Чатыры целы з перарэзанымі горламі ўбачылі супрацоўнікі міліцыі ў адным з блокаў гарадскіх інтэрнатаў. Невядомы забіў 32-гадовых мужа і жонку, 59-гадовага бацьку жанчыны і іх 53-гадовага знаёмага.

У Касуце адкрылі помнік аўтару першай украінскай Канстытуцыі **Піліпу Орліку**.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**

---

● КАЛЯНДАР

### 29 СНЕЖНЯ

**1972.** 45 гадоў назад Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка была ўзнагароджаная ордэнам Дружбы народаў.



**1884.** У фальварку Люцінка (цяпер Малая Люцінка Валожынскага раёна) памёр Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, паэт, драматург, класік беларускай літаратуры 19 стагоддзя, прадстаўнік культурна-асветнай плыні ў грамадскай думцы Беларусі, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, заснавальнік беларускай драматургіі і тэатра. Нарадзіўся 4 лютага 1808 года. Пахаваны на могілках ва ўрочышчы Тупальшчына каля вёскі Паднявічы на Валожыншчыне.

### 30 СНЕЖНЯ

**1922.** 95 гадоў назад І Усесаюзны з'езд Саветаў прыняў Дэкларацыю і Дагавор аб стварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных рэспублік.

**1918.** Створаны Мінскі беларускі педагагічны інстытут.

### 1 СТУДЗЕНЯ

**Новы год.**

**1919.** У Смаленску абвешчаная Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь.

**1929.** У Мінску адкрылася Беларуская Акадэмія навук (з 1991 года – Нацыянальная акадэмія навук Беларусі).

**1932.** Нарадзіўся Часлаў Цыбоўскі (г. Смаргонь), удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні ў 1949-1950 гг. Памёр у 1978 годзе ў польскім г. Дзержанюў (Dzierzaniow), дзе і пахаваны.

**1933.** У Вільні выйшаў першы нумар газеты "Родны край", орган Таварыства Беларускай Асветы (выдавалася да 29 лістапада 1936 года).

**1945.** Нарадзілася Вольга Іпатава, беларуская пісьменніца, перакладчыца, грамадскі дзеяч, ганаровы акадэмік Міжнароднай акадэміі навук "Еўразія".

### 3 СТУДЗЕНЯ

**280 гадоў** з дня нараджэння Казіміра Нарбута (1738 – 1807), беларускага асветніка і філосафа.

### 4 СТУДЗЕНЯ

**1869.** Нарадзіўся Ядвігін Ш. (сапр. Антон Лявіцкі), пісьменнік, літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч.

**1729.** Нарадзіўся Яўхім Храптовіч, грамадска-палітычны, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, публіцыст, паэт, перакладчык.

Падрыхтавала **Марыя БЕРАСНЕВА.**

# "У мяне з'явілася свабода"

## Пра плюсы і мінусы працы дома

**Няма начальніка, гнуткі графік, эканомія часу на паездках, але пры гэтым ненармаваны працоўны дзень і адсутнасць зносін з калегамі – чатыры фрылансеры расказалі пра плюсы і мінусы работы дома.**

**Емяльян Дарбінян, 18 гадоў, праграміст:**

– Я вучуся ва ўніверсітэце на інжынера-праграміста. Хацеў знайсці падпрацоўку, і знаёмыя расказалі, што можна зарабляць грошы, не выходзячы з дому. Мяне гэта зацікавіла, тым больш, досвед не патрабаваўся і працаваць можна без начальніка.

Стаў шукаць у інтэрнэце работу ў сферы праграмавання. Неўзабаве пачаў атрымліваць невялікія заказы – напрыклад, па напісанні алгарытмаў.

Працую ў вольны ад вучобы час. У тыдзень на гэта ідзе каля 10 гадзін. Не скажу, што шмат зарабляю, для мяне гэта хутчэй назапашванне патрэбнага досведу.

На мой погляд, мінусаў у працы дома больш, чым плюсаў. Мне падабаецца, што можна самому размяркоўваць працоўны час, што не трэба кудысьці ісці. Маё працоўнае месца – гэта мой дом: я працую, седзячы на ложку ці за абедзенным сталом. Але ёсць істотны мінус ва ўсім гэтым – маленькая зарплата. На звычайнай рабоце ў арганізацыі або на прадпрыемстве заробак залежыць ад ведаў, а тут ад часу, які затрачваю. Ад дэфіцыту зносін не пакутую, але без калегаў працаваць сумна.

Папрацаваўшы з дому, зразумеў, што ў будучыні хачу ўладкавацца на нармальную пастаянную работу ў якой-небудзь кампаніі з годнай зарплатай.

**Сяргей Крыкуноў, 53 гады, рэпетытар па англійскай мове:**

– Тры гады таму пачаў працаваць дома. Да гэтага працаваў выкладчыкам англійскай мовы ў некалькіх навучальных установах, перакладчыкам. Звольніўся, таму што не задавальняла зарплата. Паспрабаваць сябе ў рэпетытарстве прапанавала дачка, і я вырашыў рызыкнуць.

1 верасня 2014 года было сумным днём – я ўпершыню не сказаў сваім студэнтам "Добры дзень". Знаходзіцца дома было нязвыкла і балюча на душы. Я не ведаў, куды сябе падзець, некалькі гадзін хадзіў па доме ў чаканні першага вучня. Пасля гэтага доўга не мог прывыкнуць да думкі, што ўсе кудысьці спяшаюцца раніцай, а мне нікуды не трэба. З іншага боку, лавіў кайф, бо мог рабіць тое, што хачу. Год прайшоў прадуктыўна. Праца дома прыносіла задавальненне і нядрэнны прыбытак.

Галоўны плюс ва ўсім – у мяне з'явілася свабода. Цяпер я сам планую свой час, складаю расклад, а калі трэба адлучыцца, не прыходзіцца адпрошвацца. Калі ж я працаваў у навучальных установах, то расклад заняткаў пастаянна змяняўся і не заўсёды быў зручны для мяне.

Цяпер працую з васьмі раніцы да васьмі вечара, затым займаюся сваімі справамі. Мне не даводзіцца запаўняць журналы, пісаць справаздачы. Праўда, працую штодня: і ў выхадныя, і на канікулах, і нават 31 снежня. Але не лічу гэта мінусам.

Істотны плюс – фінансавы дабрабыт. На заробак выкладчыка я не мог дазволіць сабе адпачынак за мяжой, цяпер гэта для мяне не праблема.

Мінусы ў рабоце дома ёсць, але іх няшмат. Папершае, мне не падабаецца, што даводзіцца шмат сядзець. Штодня выходжу на прагулкі, і мая норма – 10 000 крокаў. Па-другое, мой працоўны дзень часта пачынаецца ў другой палове дня, калі іншыя ўжо заканчваюць працу.



Емяльян Дарбінян, праграміст.



Іна Сакалова, краўчыха.



Сяргей Крыкуноў, рэпетытар.




Ілля Алхазашвілі, фрылансер.

**Іна Сакалова, 41 год, краўчыха:**

– Пасля вучобы я патрапіла па размеркаванні на швейнае прадпрыемства. Прапрацавала там нядоўга. Мне не падабалася працаваць у калектыве, якому быў абыякавы вынік. Я ж хацела развівацца, працаваць над складанымі і незвычайнымі заказамі. І тады падумала пра адкрыццё сваёй майстэрні. Да таго ж разумела, што, працуючы на сябе, буду зарабляць больш, чым на прадпрыемстве.

Спачатку працаваць дома было крыху сумна. За тыдзень маглі прыйсці ўсяго тры чалавекі. Было цяжка арганізаваць свой час. А калі нарадзіліся дзеці, сумяшчаць працу і сям'ю стала значна больш складана. Часам узнікалі спрэчкі з мужам. Ён лічыў, што, калі я працую дома, значыць, магу паспець перарабіць яшчэ шмат хатніх спраў.

Цяпер, адпрацаваўшы дома каля 20 гадоў, магу сказаць, што ў гэтым ёсць нямала плюсаў. Адзін з іх – не трэба рана прачынацца. Усю раніцу прысвячаю сабе, а працоўны дзень у мяне пачынаецца каля 9-10 раніцы. На працягу дня магу адлучыцца па сваіх справах.

Ёсць магчымасць развівацца, чаго мне так хацелася. Вывучаю модныя кірункі, тэндэнцыі і магу прасоўваць свае ідэі. Калі б я працавала на прадпрыемстве, то выконвала б толькі тое, што даручалі.

Для мяне праца дома – гэта свабода. У любы час магу сарвацца і паехаць з дзецьмі ў іншы горад ці проста выйсці на прагулку. Раз у год – калі мне зручна, а не па графіку! – даю сабе адпачынак. Адключаю тэлефон і выязджаю з сям'ёй з горада або з краіны.

Да мінусаў я аднесла б вольны графік – праца дома расслабляе. Часам даводзіцца сябе прымушаць. З-за адсутнасці нармаванага працоўнага дня я, калі ў мяне шмат заказаў, вымушана працаваць да ночы. На прадпрыемстве ты адпрацаваў пэўны час і пасля змены можаш прысвяціць сябе сям'і і асабістым справам.

Няхай я пазбаўленая магчымасці зavaяваць нейкі дыплом, як гэта бывае на прадпрыемстве, мне больш прыемна, калі людзі задаволеныя вынікам і пазнаюць мяне.

**Ілля Алхазашвілі, 19 гадоў, фрылансер:**

– Пасля школы спрабаваў паступіць у Маскву на праграміста, але не хапіла балаў, таму пачаў шукаць працу. Месяц працаваў падсобным рабочым, затым разносчыкам піцы.

Звольніўся, бо не падабаўся графік работы, штодзённыя раннія пад'ёмы і пастаянная незадаволенасць начальства. Даведаўся, што можна зарабляць праз інтэрнэт. Заняўся капірайтынгам – напісаннем рэкламных тэкстаў. Каля месяца "сядзеў" на дробных замовах і працаваў па 12 гадзін. Потым вырашыў асвоіць яшчэ дзве сферы: праграмаванне і эканоміку, чым цяпер і займаюся. Распрацоўваю і ствараю сайты, таксама адсочваю парталы, куды варта ўкласці грошы.

Бацькі спачатку адмоўна ставіліся да майго занятку. Паўтаралі, каб я знайшоў нармальную работу. На самой справе, фрылансерам можна зарабіць да некалькіх тысяч долараў у месяц. У працы дома ёсць некалькі плюсаў. Няма жорсткага распарадку дня. Калі мне пайсці ў адпачынак, я вырашаю сам. За гэты год я ўжо наведаў дзесяць краін.

Яшчэ адзін плюс – няма начальніка, які гарлапаніць і адбівае жаданне працаваць. Падабаецца, што ў мяне стала больш вольнага часу.

Што тычыцца мінусаў, то галоўны з іх – адсутнасць жывых зносін. Не скажу, што моцна ад гэтага пакутую, але часам хочацца пасядзець у дружным калектыве, схадзіць на карпаратыў, выехаць з калегамі на прыроду. Дом стаў працоўным месцам, а раней асацыяваўся з адпачынкам.

**Карына БАРАБАШ,**
**"Intex-press", Баранавічы.**
**Фота Яўгена ЦІХАНОВІЧА,**
**з асабістых архіваў герояў.**

### Каментар спецыяліста.

**Вольга Крывіцкая, псіхолаг:**

– Калі вы хочаце змяніць офіс на працу дома, трэба быць гатовым да змешвання межаў паміж асабістым і рабочым. Спатрэбіцца ўсталяваць межы і правілы як для сябе, так і для членаў сям'і па рэжыме працы і працоўнага месца. Акрамя таго, давядзецца стаць самому сабе выдатным начальнікам. А гэта і пытанні дысцыпліны, заахвочвання, кантролю.

Працуючы ў офісе, чалавек, акрамя зараблення грошай, задавальняе яшчэ масу патрэбаў. Таму трэба быць гатовым, што пры працы дома будуць незадаволенымі патрэбы, якія папаўняе ў калектыве: фармальныя і сяброўскія зносіны, увага супрацьлеглага полу, прызнанне, захапленне, прафесійная падтрымка. А таксама шэраг іншых, якія задавальняліся незаўважна. Напрыклад, фізічная актыўнасць, неабходнасць новых уражанняў.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518
Тэл./факс: (0176) **53-78-04**, тэл. **53-78-05,**
reklama@rh.by, www.rh.by




# 2018

1 студзеня – Новы год
7 студзеня – Каляды праваслаўныя
8 сакавіка – Міжнародны жаночы дзень
1 красавіка – Вялікдзень каталіцкі
8 красавіка – Вялікдзень праваслаўны
17 красавіка – Радаўніца
28 красавіка – дзень нараджэння “Рэгіянальнай газеты”
1 мая – Дзень працы
9 мая – Дзень Перамогі
3 ліпеня – Дзень Незалежнасці
7 лістапада – Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі
25 снежня – Каляды каталіцкія

## Студзень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Птц | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ндз | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## Люты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Птц | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ндз | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## Сакавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Птц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ндз | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## Красавік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Птц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ндз | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## Май

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Птц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## Чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Птц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ндз | 3 | 10 | 17 | 24 | |

## Ліпень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Птц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ндз | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## Жнівень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Птц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## Верасень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Птц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

## Кастрычнік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Птц | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ндз | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## Лістапад

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Птц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ндз | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## Снежань

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Птц | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Як звалі знакамітага ката Аляксандра Алёхіна?

**Эрудыты і аматары шахмат ведаюць, што ў вялікага расійскага чэмпіёна свету быў кот па мянушцы Чэс. Чэс з англійскай – шахматы. Арыгінальна, як вы лічыце? А ў мяне неяк жыў папугай з мянушкай Чос. Але сёння пра коціка.**


Фота project.splash.com.

Аляксандр Алёхін з катом Чэсам.

Кот быў для Алёхіна талісманам, вазіў яго паўсюль. За мяжу, у атэлі... Кот заўсёды быў у абойме спартыўных падзей. Падчас Сусветнай шахматнай алімпіяды 1935 года ў Варшаве Чэс некуды знік. Алімпіяда была вельмі папулярнай у горадзе, сабрала каля дзвюх тысяч гледачоў. Людзі ішлі глядзець на Алёхіна і яго ката, а той знік.

І Алёхін наадрэз адмовіўся гуляць да таго часу, пакуль не знойдуць коціка. Усю варшаўскую паліцыю паднялі на вушы, і ката ў выніку знайшлі! На той алімпіядзе Алёхін не прайграў ніводнай партыі.

У матчы за шахматную карону паміж Алёхіным і Максам Эйве быў вельмі арыгінальны рытуал перад кожнай партыяй. Чэс абнюхваў фігуры і дошку, за якой гулялі гросмайстры. Галандзец Макс Эйве ўсё гэта трываў, ніякіх пратэстаў не выказваў, таму што вельмі паважаў расійскага гросмайстра. Гэты матч Алёхін прайграў.



Рашайце задачу на мат у адзін ход, няхай усё атрымаецца на шахматным полі і ў новым годзе!



Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.



*Калектыў рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" дзякуе Віталю Качаткову за сёлетняе нараджэнне рубрыкі, прысвечанай шахматам. Няхай у новым годзе ў вас будуць толькі перамогі ў партыях і жыцці!*

# Святочны настрой уваходзіць у пакой разам з Дзедам Марозам

МАЛАДЗЕЧНА

**Такую фразу давялося пачуць ад хакеістаў каманды "Дынама-Маладзечна" на ранішніку, які хлопцы правялі разам з гадаванцамі маладзечанскай школы-інтэрната для дзяцей з парушэннямі зроку.**


Фота Наталлі ТУР.

Хакеіст "Дынама-Маладзечна" Ягор Воранаў прызнаецца, што да сёння верыць у Дзеда Мароза і Снягурачку.

Хакеісты разам з дзецьмі і іншымі гасцямі свята перажывалі за галоўных герояў спектакля, у якіх хітрая ліса скрала гадзіннік. А як без гадзінніка надыдзе Новы год? Радаваліся, калі вучоны кот падказаў, дзе ж шукаць згубу. Вадзілі карагод разам з Карлсанам, Фрэкен Бок, Сабачкам, іншапланецянамі.

Разам звалі Дзеда Мароза, які з'явіўся ў канцы спектакля і на лік: раздва-тры запаліў ялiначку.

Потым былі песні і падарункі. Ну і, канешне ж, салодкі стол.

Торты разам з дзецьмі ўміналі і хакеісты. Пры гэтым, ці то ад атмасферы, ці ад таго, што дзеці дазволілі памераць свае касцюмы, ці ад таго, што торт быў вельмі смачны і салодкі, у нас з хакеістамі **Ягорам Воранавым, Віталем Кірушчанкам, Іллёй Летавым, Андрэем Бялевічам і Аляксандрам Асіпковым** атрымалася вельмі душэўная размова.

– У дзіцячым садку на ранішніках даводзілася быць выключна зайчыкам, – прызналіся Ягор Воранаў, Віталь Кірушчанка і Ілля Летаў.

Маленькаму ж Сашу Асіпкову ў дзіцячым садку давялося прымераць на сябе вобраз Шкаўкунчыка.

– А вось у школе на ранішніках быць не давялося нікім, – прызнаецца Аляксандр, – бо ў трэцім класе пайшоў займацца хакеем і падчас навагодніх святаў прападаў на трэніроўках і гульнях.

**– Новы год цяпер адрозніваецца ад тых, дзіцячых?**

– Ну, тым, што ён пройдзе ў трэніроўках, – кажа Ілля Летаў, – ад дзіцячых адрозніваецца не вельмі. 28 снежня мы згуляем апошнюю гульню ў гэтым сезоне, потым да 2 студзеня нас адпусцяць дадому, адзначаць Новы год з роднымі і блізкімі. А 2 студзеня ўжо трэніроўкі, так што не асабліва і расслабішся, бо будзе пасля цяжкавата ўваходзіць у форму.

Хакеісты адзін з адным пагаджаюцца ў тым, што Новы год трэба адзначаць з блізкімі і роднымі.

– На святы я паеду да мамы ў Магілёў, – кажа Ягор Воранаў, – там у яе і ялінка ўпрыгожаная, і стол святочны, і падарункі падрыхтаваныя.

**– Чакаеце ў падарунак чагосьці асаблівага?**

– Не, – прызнаецца Андрэй Бялевіч, – галоўнае, каб у родных усё было добра і каб яны заставаліся побач і ў наступным годзе.

– А я не адмовіўся б ад машынкі ці верталёта на пульце, – кажа Ілля Летаў.

І з ім пагаджаецца Аляксандр Асіпкоў.

Згодныя хакеісты адзін з адным і з выбарам навагодніх песень. Любімыя ў іх пра ёлачку, пра зіму, якая жыла ля лесу і саліла снежкі, пра навагоднія цацкі.

**– А ў Дзеда Мароза верыце?**

– Да гэтага часу веру, – кажа Аляксандр, – хоць разумею, што пад барадой Дзеда Мароза хаваецца акцёр, але трапятанне, калі ён заходзіць у пакой і крычыць : "Хохо-хо", такое ж, як у дзяцінстве. І на сённяшнім ранішніку адчуў, як разам з Дзедам Марозам у пакой увайшоў святочны настрой.

– А ў нас у сям'і, – расказвае Андрэй Бялевіч, – ролю Дзеда Мароза выконваў бацька. Да гэтага часу дома захоўваецца яго барада і шапка. Вось сам я стану бацькам, тады абавязкова дастану з шафы ўбор бацькі, каб падарыць сваім дзецям навагоднюю казку. Я зраблю ўсё, каб дзеці даўжэй верылі ў Дзеда Мароза. Гэта ж крута!

**Наталля ТУР.**

## 40-годдзе ДЮСШ адзначылі святочным турнірам

МАЛАДЗЕЧНА

У суботу, 23 снежня, у Лядовым палацы ДЮСШ №4 адзначыла сваё 40-годдзе.

З гэтай нагоды ўсе футбалісты, сярод якіх мільгалі прозвішчы **Галубовіча, Макоўскага, Вяжэвіча, яшчэ Макоўскага, Пудышава, Кандрацьева, Пракапенкі**, гулялі ў футболках, на спіне якіх красавалася лічба 40.

Дырэктар ДЮСШ №4 **Віктар Дзмітрачкоў** патлумачыў:

– Такім чынам мы хацелі адзначыць 40-годдзе нашай спартыўнай школы. З гэтай нагоды арганізавалі і правялі святочны турнір, у якім паўдзельнічалі нашы каманды 2005-2006 гадоў нараджэння, каманды нашых дзяўчат 2001-2003 гадоў нараджэння, запрасілі каманды з Валожына і дзве каманды з Мінска.

Пасля заканчэння турніру, у якім, дарэчы, перамагла каманда 2005 года, для ўсіх аматараў і сапраўдных прыхільнікаў футбола сыграла каманда выпускнікоў і выкладчыкаў ДЮСШ супраць ветэранаў легендарнай каманды "Дынама-Мінск".

– Магчыма, для сённяшняй моладзі, – працягвае Віктар Дзмітрачкоў, – прозвішчы Пудышаў, Кандрацьеў, **Бялоў** нічога не значаць, але для нас, старэйшага пакалення, гэтыя імёны сапраўды легендарныя. Што казаць, калі **Георгі Кандрацьеў** уваходзіць у сотню лепшых бамбардзіраў Савецкага Саюза.

У планах спартыўнай школы зрабіць такія турніры традыцыйнымі.

– У нас працуюць маладыя, амбіцыйныя **Міша і Вова Макоўскія**, – кажа намесніца дырэктара **Святлана Міндзюкевіч**, – у іх, мяркую, будзе дастаткова энтузіязму, каб увасобіць у жыццё ўсе смелыя планы. Тым больш, кіраўніцтва горада пайшло нам насустрач. І таму, калі ўсё складзецца, бліжэй да лета на гарадскім стадыёне мы зладзім футбольны фестываль, на які плануем запрасіць 30-40 камандаў.

Што датычыцца юбілейнай гульні, ветэраны "Дынама-Мінск" усё ж перамаглі і сваёй гульнёй, і сваім аўтарытэтам.

**Наталля ТУР.**



# Нежартаўлівыя жарсці вакол святочнай акцыі

**Рэдакцыя падвяла вынікі акцыі “Мой гадаванец”. Было няпроста, і вось чаму.**



Сябры, наша акцыя “Мой гадаванец” задумвалася як лёгкая навагодняя забава. Атрымалася, што яна выклікала нежартаўлівыя жарсці. Некаторыя абвінавачвалі іншых у накрутцы ў галасаванні на прыз глядацкіх сімпатый на нашым сайце rh.by.

Мы прапанавалі зручную, на наш погляд, форму на староннім сэрвісе, у якой рух галасавання відаць адразу.

Статыстыка сэрвісу сабрала 6 331 голас. Вынікі наступныя. У галасаванні два лідары – **Вольга** з гадаванцамі **Ірмай і Мартам** набралі 9,8%, **Іна** з гадаванцам **Шокі** – 7,7%.

Мы вырашылі ўзнагародзіць усіх траіх гадаванцаў невялічкімі пачастункамі за прыз глядацкіх сімпатый. На пасяджэнні рэдакцыі 22 снежня мы выбіралі пераможцаў конкурсу. Абралі тых, хто, на нашу думку, найбольш удала атрымаўся на здымку – **Ірма і Март** проста як з карцінкі.

Гаспадыня гэтых двух дварнякаў Вольга Малько напісала гісторыю, якая не пакінула раўнадушнай нашу рэдакцыю:

– Заўсёды ведала, што калі вырасту – абавязкова завяду сабаку. Таму з пераездам у новы дом з першага дня з’явіўся сабака. Узяла шчанюка ў валанцёраў, бо не хацела купляць, калі іх так шмат гіне і прападае на вуліцах. Праз некаторы час стала і сама дапамагаць знайсці добрыя рукі бяздомным сабакам. Так у доме з’явіўся худы спалоханы шчанюк, які так нікому і не спадабаўся і таму застаўся жыць у мяне.

Менавіта яны атрымаюць пачак корму. Просім чытачоў паставіцца да навагодняй акцыі з добрай усмешкай. Няхай вашы чароўныя гадаванцы ў новым годзе прынясуць шмат радасці!

**Аддзел інфармацыі.**

**Дарагія чытачы, не хвалюйцеся, мы не пакінулі навагодні нумар без КРЫЖАВАНКІ. Вас чакае нашмат большы красворд, чым звычайна, на старонцы 17-й.**



## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СТУДЗЕНЬ**

З Новым 2018 годам!

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Цётухна прастуда і Новы год**” (казка-мюзікл) 3+, *Наталля Марчук*
3 студзеня – у 10:30

“**Цётухна прастуда і Новы год**” (казка-мюзікл) 3+, *Наталля Марчук*
4 студзеня – у 10:30

ПРЭМ’ЕРА. “**Тайна вострава людаедаў**” (пірацкі трылер у адной дзеі) 8+, *Дамір Салімзянаў*
14 студзеня – у 11:00

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ’ЕРА. “**Ну, вы даяце**” (камедыя па матывах сучаснай драматургіі) 18+
4 студзеня – у 19:00

“**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Сцяпан Лабазёраў*
5 студзеня – у 19:00

“**Вакзал на траіх**” (трагікамедыя ў 2-х частках) 16+, *Ігар Балабко*
12 студзеня – у 19:00

“**Нязваны госць**” (сур’ёзная камедыя) 16+, *Святлана Бартохава*
17 студзеня – у 19:00

“**Шукаю сапраўднага мужчыну**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Алена Папова*
21 студзеня – у 17:00

“**Прыгажуні**” (амерыканская камедыя” 16+
26 студзеня – у 19:00

“**№13**” (камедыя ў 2-х дзеях) 16+, *Рэй Куні*
28 студзеня – у 17:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**74-63-86** – намеснік дырэктара, **74-63-88** – галоўны адміністратар, **74-63-85** – каса.
E-mail:
modt@tut.by, www.theatre-modt.by
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА СНЕЖАНЬ, СТУДЗЕНЬ**

**Чароўнае навагодняе прадстаўленне “КАЗАЧНЫ СНЕГАПАД”**
29, 30 снежня 2017 г.
2-5 студзеня 2018 г.

У праграме: казачны спектакль “**Пані Мяцеліца**” *братоў Грым;*
сустрэча з Дзедам Марозам, Снягуркай, казачнымі героямі;
вясёлыя карагоды, гульні, танцы, вершы, падарункі.

“**Меч анёла**” (батлеечныя варыяцыі), І.Сідарук (бел.)
14 студзеня – у 12:00

“**Шчаўкунчык**” (калядная казка), Э.Т.А.Гофман (рус.)
21 студзеня – у 12:00

“**Залатая табакерка**” (казка-жарт), А.Плютава
28 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (8-0176) **74-62-19**, **50-56-96**.
УНП 600136804

## ГАРАСКОП 29 СНЕЖНЯ-4 СТУДЗЕНЯ

**З Новым годам усіх вас! Няхай ён нясе радасць, незабыўныя моманты, цікавыя сустрэчы. Няхай у вас усё ладзіцца і з вашых твараў не сыходзіць усмешка. Будзьце здаровыя і шчаслівыя.**



**АВЕН.** Творчы, духоўны ўздым, толькі ёсць адно але: новая энергія палкага кахання можа сыграць злы жарт з кожным, хто вырашыць аддацца ёй на волю і зусім забудзецца пра свой розум.



**ЦЯЛЕЦ.** Вы адчуеце прыліў сіл, якім грэх не скарыстацца. А яшчэ ўзрасце ўзровень інтуіцыі, дзякуючы чаму вы хутка знойдзеце вырашэнне любых праблем.



**БЛІЗНЯТЫ.** Каб шмат паспець, не варта доўга думаць – адразу бярыце быка за рогі! У зносінах з людзьмі праяўляйце гнуткасць. Не насміхайцеся, не рабіце ім заўвагі. І не сядзіце шмат часу дома, сустракайцеся з сябрамі, размаўляйце на розныя тэмы. Ужо з гэтых дзён вы адчуеце змены ў вашым унутраным свеце.



**РАК.** Цудоўны час для гарманізацыі адносін з каханымі, дзецьмі. У цэнтры будзе любоў. І вы будзеце атрымліваць яе адусюль: ад каханага, дзяцей, сваякоў, знаёмых. Час спрыяльны для куплі рэчаў, абнаўлення вашага гардэроба. Падыходзіць прымаўка “Рыхтуй летам сані, а зімой – калёсы”.



**ЛЕЎ.** Акуніцеся ў атмасферу святаў. Упусціце ў сябе энергію свята і любові. Адчуйце, як штосьці неверагодна лёгкае, прыгожае і казачнае напаўняе вас. Цуды працягваюцца.



**ДЗЕВА.** Нерабочы настрой моцна завалодае вамі. Затое вы можаце стаць душой кампаніі і нават сэрцаедам. Хтосьці дакладна не ўстаіць перад вамі. А яшчэ вам “свеціць” выключная ўдача ў справах, фінансах, каханні. Вось і пастарайцеся распарадзіцца ёй разумна.



**ШАЛІ.** Займіцеся міласэрнасцю. І зусім неабавязкова ўкладвацца матэрыяльна. Вы можаце знайсці спосаб парадаваць іншых і зрабіць чыёсьці жыццё лепшым нават без грошай.



**СКАРПІЁН.** Эмоцыі пачнуць напаўняць ваша жыццё і ўплываць на погляды і патрэбнасці. Вам захочацца больш стабільнасці ў адносінах, абзавесціся сям’ёй. Ярка прачнецца жаданне кахаць і быць каханай, хаця раней вы маглі адносіцца да гэтага раўнадушна ці нават скептычна. Нельганазваць гэтыя жаданні нязбытнымі марамі, у вас ёсць усе шанцы пачаць паступова іх рэалізоўваць. Толькі прыкладзіце намаганні, запасіцеся цярпеннем і не мяняйце на хаду паклоннікаў.



**СТРАЛЕЦ.** Спрыяльны перыяд, каб паклапацiцца пра здароўе. Аднак, каб дабіцца сур’ёзных станоўчых вынікаў, неабходна будзе набрацца цярпення.



**КАЗЯРОГ.** Вы не застаняцеся без падтрымкі звыш, калі возьмяцеся за сур’ёзнае навучанне ці пастараецеся ўладкаваць сваё ўласнае жыццё.



**ВАДАЛЕЙ.** Вам трэба задумацца пра чалавека, якога вы даўно ўжо цешыце надзеямі. Зоркі раяць узважыць усе аргументы, але прымайце рашэнне толькі інтуітыўна. Вы не памыліцеся, трэба толькі прыслухацца да сябе і рызыкнуць.



**РЫБЫ.** Хіба можна жыць чаго-небудзь жадаць, калі і так усё добра, і ваша жыццё праходзіць у радасці і задавальненні? Усе гэтыя дні вы будзеце, як сыр у масле.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 6 | 7 | | | |
| | 4 | 5 | | | | | 8 | |
| | | | | | | | | |
| | 3 | | | | | 6 | | 7 |
| | | | | | | | | 1 |
| | | | 8 | | 4 | | | |
| | | | | 9 | | | | |
| 7 | | 4 | | | | | | |
| | | | 3 | | | | 5 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

ISSN 1991–7155
# Рэгіянальная газета. Rh.by
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

### 30 снежня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 | | +3 | | 0 | | +2 | |
| | +6 | | +1 | | 0 | | +6 | |
| | 730 | ↑ 4 | 738 | ↘ 4 | 739 | ↑ 5 | 737 | ↗ 7 |
| Вільня | +4 | | +2 | | 0 | | +6 | |
| | +5 | | +3 | | +1 | | +6 | |
| | 734 | ↑ 4 | 745 | → 2 | 742 | ↑ 7 | 742 | ↗ 8 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 9.33
Захад 16.57
Даўжыня дня 7.24

Усход 15.10
Захад 5.42
Квадра 2




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -31,8 °С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +5,6 °С у 2013 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,4 мм у 1977 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Геаграфія "Асобы года" "Рэгіянальнай газеты" пашыраецца. Сёлета рэдакцыя выбрала прадстаўнікоў Валожыншчыны. Інтэрв'ю з пераможцамі – гаспадарамі прытулку для сабак Аленай і Ігарам Крэйнісамі – чытайце ў наступным нумары.



## ● НАШЫМ ПАДПІСЧЫКАМ



## У новым годзе кожнаму падпісчыку мы дорым каляндар

З першым нумарам "Рэгіянальнай газеты" ў 2018 годзе па шматгадовай традыцыі кожны наш падпісчык атрымае каляровы каляндар.

Ужо другі год запар фотаздымкі для календара мы выбіраем падчас акцыі "Не губляй ніводнага дня". З фотаздымкаў, дасланых чытачамі, рэдакцыя выбірае лепшы.

Сёлета ў акцыі перамог фотаздымак, які даслаў маладзечанец **Сцяпан Коршук**. На фота – яго дачка, дзевяцігадовая **Стафанія**.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Кіроўцу спыняе супрацоўнік ДАІ за перавышэнне хуткасці.
– Чаму парушаем?
– Ды з сябрамі заседзеліся, Новы год адзначалі. Вось і спяшаюся: жонка хвалюецца, напэўна.
– Які Новы год? Май на двары!
– Таму і спяшаюся.

***

Хлопчык прыходзіць з дзіцячага садка ўвесь падрапаны.
Бацька пытаецца:
– Што здарылася?
– Карагоды вакол ёлкі вадзілі.
– Ну і што?
– Ёлка вялікая, а дзяцей мала!

***

– Якія ў вас планы на Новы год?
– Залезем на ёлку, будзем зоркамі.

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што вы абяцаеце пачаць рабіць з новага года?



**Іна Бауліна, бібліятэкарка, Вілейка:**
– Абяцаю жыць на пазітыве, пашыраць свой кругагляд, а таксама быць сабой.



**Аляксандра Івашанка, бухгалтарка, Маладзечна:**
– Будзем старацца больш падарожнічаць з сям'ёй.



**Сяргей Шыман, музыкант, Маладзечна:**
– З новага года абяцаю не паўтараць тых памылак, якія былі ў мінулым годзе.



**Часлава Сідарэвіч, намесніца загадчыцы дзіцячага садка, Астравец:**
– З новага года я паспрабую больш настойліва пераадольваць сваю ляноту, якая затрымлівае маё набліжэнне да здзяйснення мары. А яшчэ мне неабходна правільна размяркоўваць сямейны бюджэт, таму буду працаваць над яго рацыянальным выкарыстаннем.



**Таццяна Буслаўская, настаўніца, Вілейка:**
– Абяцаю сабе з новага года ўсе справы рабіць своечасова, не адкладваючы да апошняга дня. А яшчэ, як звычайны Карлсан, захоўваць "спакой і толькі спакой", не нервавацца па дробязях.



**Канстанцін Кавалёў, электрык, Астравец:**
– У чарговы раз паабяцаю правільна харчавацца і займацца спортам. І выканаць гэта абяцанне.



**Ягор Белахвостаў, студэнт, Вілейка:**
– Абяцаю здаць сесію "на выдатна", быць больш упэўненым і настойлівым, радавацца кожнай прыемнай дробязі.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№52 (1183) 29.12.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1241. Падпісана ў друк у 9.00 28.12.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.